Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 26 (4621) 1 ліпеня 2011 г.

**Міхась РУДКОЎСКІ**

## *Вызваленне*

*О ліпеньскі дзень той крылаты,*
*Крылаты, як гром, як агонь!*
*Нібы найвялікшае свята*
*Заўжды ўспамінаю яго.*

*…Уранні гула і грымела*
*Палеская наша вёска —*
*Ішлі цераз вёску на захад*
*Чырванасцяжныя войскі.*
*Кабеты выходзілі з хатаў,*
*І вочы святлелі ў кабет.*
*У лепшых уборах дзяўчаты*
*Гарэлі, як макавы цвет.*

*І ў поўдзень гула і грымела*
*Палеская наша вёска —*
*Ішлі цераз вёску на захад*
*Чырванасцяжныя войскі.*
*Забытая ў радасці ўсімі,*
*Рыкала,*
*рыкала скаціна.*
*Вярталіся з пушчаў ласіных*
*З драбавікамі мужчыны.*

*І ўвечар гула і грымела*
*Палеская наша вёска —*
*Ішлі цераз вёску на захад*
*Чырванасцяжныя войскі.*
*Падлеткі, мы прагна глядзелі*
*Зялёным калонам услед,*
*І нашыя сэрцы ляцелі*
*Ў трывожны, з*
*адымлены свет…*

# 3 ліпеня — Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь

**Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь — адно з найгалоўнейшых дзяржаўных свят, якое па сваёй значнасці і ўрачыстасці стаіць побач з Днём Перамогі. І нездарма для яго была абрана дата 3 ліпеня — Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Гэта была, бадай, галоўная перамога беларускага народа, галоўная прыступка на шляху да незалежнасці, суверэннасці і самастойнасці. У гэты дзень мы зноў узгадваем подзвіг нашых дзядоў і абяцаем захаваць незалежнасць роднай Беларусі. Мы вучымся на іх гераізме і мужнасці, самаахвярнасці і моцы духу, з упэўненасцю глядзім у будучыню і будуем моцную і квітнеючую Беларусь.**

**Удзельнікам VI Беларускага міжнароднага медыяфоруму «Партнёрства ў імя будучыні: патрыятызм, духоўнасць, яднанне»**

Паважаныя сябры!

Сардэчна вітаю вас, вядомых журналістаў, палітолагаў і экспертаў краін СНД і далёкага замежжа, на нашым медыяфоруме.

У сучасным свеце роля сродкаў масавай інфармацыі вялікая і адказная. Бо яны не толькі выказваюць, але і фарміруюць грамадскую думку. Галоўныя прынцыпы, якімі павінны кіравацца журналісты сёння, — праўдзівасць, непрадузятасць і павага да законаў краіны і маральных каштоўнасцей народа.

Безумоўна, форум стане знакавай падзеяй у жыцці медыйнага супольніцтва, а вашы прапановы паслужаць пашырэнню і ўмацаванню міжнароднага супрацоўніцтва, распаўсюджванню аб'ектыўнай інфармацыі пра Беларусь.

Зычу вам плённых стасункаў, яркіх змястоўных дыскусій і стваральных ідэй. Няхай актыўная грамадзянская пазіцыя кожнага з вас заўсёды будзе асновай вашай творчасці на ніве журналістыкі.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**Аляксандр Лукашэнка**



**Больш як 80 журналістаў з 21 краіны свету сабраў VI Беларускі медыяфорум "Партнёрства ў імя будучыні: патрыятызм, духоўнасць, яднанне", які праходзіў з 22 па 25 чэрвеня.**

Чырвонай стужкай праз усе мерапрыемствы форуму прайшла тэма адказнасці журналістаў за кожнае слова, кожны кадр — яны могуць змяніць ход гісторыі, адносіны паміж дзяржавамі. Таму журналістыка — не проста творчасць, але і вялікая адказнасць. Адказнасць за будучыню і мір. Тым больш актуальнай гэтая думка падалася пры згадцы пра жудасныя і кровапралітныя войны ўжо мінулага стагоддзя. А не ўзгадаць пра Другую сусветную і Вялікую Айчынную было немагчыма яшчэ і таму, што сам форум стартаваў 22 чэрвеня — у дзень пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Памятаючы пра ахвяры, мы павінны думаць пра будучае, захоўваць мір, будаваць адносіны на ўзаемапавазе і талерантнасці і не дапускаць, каб сілы разбурэння кіравалі словам і журналістыкай.

# Школа сумленнай журналістыкі

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

Работа "Летняй школы журналістыкі" на базе Інстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта стала цэнтральным мерапрыемствам другога дня VI Беларускага міжнароднага медыяфоруму.

Выступаючы на ўрачыстай цырымоніі адкрыцця, міністр інфармацыі Алег Пралляскоўскі падкрэсліў асаблівую ролю сродкаў масавай інфармацыі ў жыцці не толькі грамадства, асобнай дзяржавы, але і на міжнародным узроўні:

— Чалавек XXI стагоддзя жыве ў вельмі насычанай інфармацыйнай прасторы, у якой адлюстроўваюцца ўсе грані жыцця грамадства. І СМІ набываюць усё большую вагу ў сучасных палітычных і эканамічных працэсах. Таму што яны не проста адлюстроўваюць, а нярэдка і фарміруюць напрамак і тэндэнцыі развіцця грамадства, сцэнарый і дынаміку падзей нацыянальнага, міжнароднага ўзроўню. Прыклады апошняга часу вельмі ясна паказваюць, як СМІ, Інтэрнэт могуць выкарыстоўвацца з мэтай нагнятання дэструктыўных працэсаў, разбурэння паспяхова функцыянуючых палітычных і эканамічных сістэм цэлых дзяржаў. Гэтым разбуральным тэндэнцыям мы проста абавязаны супрацьпаставіць сацыяльна адказную пазіцыю, якая прадугледжвае фарміраванне грамадскай думкі ў ключы раўнапраўнага супрацоўніцтва з улікам найважнейшага права — права на суверэннае развіццё краін, народаў. Разумеючы значнасць гэтых задач, беларусы выступаюць актыўнымі ініцыятарамі міжнароднага супрацоўніцтва.

Летняя школа журналістыкі — гэта майстар-класы вядучых журналістаў з усяго свету. Тэмы — самыя розныя: стварэнне тэле- і радыёпраграм, публіцыстыка, аналітычныя артыкулы… Калі ёсць жаданне чамусьці навучыцца, пазнаёміцца з працай калег, выбраць было з чаго.

Як справядліва адзначыў дырэктар Інстытута журналістыкі БДУ Сяргей Дубовік, работа такой школы дазваляе ўзбагаціць нашу журналістыку і паказаць арыенціры, да якіх неабходна імкнуцца. Набываючы ўсё большы размах, "Летняя школа журналістыкі", па словах А.Праляскоўскага, з цягам часу пашырыцца дзякуючы ўдзелу ў ёй не толькі спецыялістаў сённяшніх, але і студэнтаў адпаведных ВНУ з іншых краін. І тады, не выключана, школа стане асобным мерапрыемствам.

## Пункцірам

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў рэдакцыі “Белорусской военной газеты. Во славу Родины” з 90-годдзем выхаду ў свет першага нумара. Кіраўнік дзяржавы пажадаў супрацоўнікам і чытачам выдання моцнага здароўя, шчасця, натхнення, поспехаў ва ўсіх справах і пачынаннях у імя Айчыны.

Конкурс на лепшы праклад аховы нерухомых матэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей будзе праведзены ў гэтым годзе Міністэрствам культуры Беларусі. Тры пераможцы атрымаюць грашовыя прэміі. На думку міністра культуры Паўла Латушкі, гэта будзе добрым прыкладам таго, як трэба ставіцца да архітэктурнай спадчыны.

Студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (факультэт экранных мастацтваў) упершыню накіраваны на навучанне ва Усерасійскі дзяржаўны ўніверсітэт кінематаграфіі імя С. Герасімава дзякуючы Спецыяльнаму фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі.

Урачыстасці ў гонар стагоддзя спіска цудатворнай іконы Божай Маці “Достойно есть”, перададзенай у дар са Святой гары Афон храму Нараджэння Прасвятой Багародзіцы, прайшлі ў Глыбокім з удзелам архіепіскапа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія. Глыбоцкая ікона з’яўляецца дакладнай копіяй святагорскага цудатворнага абраза.

Мемарыяльная дошка ў гонар вядомага кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі Міхаіла Пташука адкрыта ў Баранавічах на будынку сярэдняй школы № 13. Гарадскія ўлады разглядаюць пытанне аб наданні адной з вуліц імя Пташука.

Пяты міжнародны фестываль “Гродна-джаз 2011” прайшоў у абласным цэнтры. Свята адбылося ў двары Новага замка, дзе пад адкрытым небам гучалі традыцыйны джаз і яго сучасныя плыні: фанк, свінг, фьюжн, авангард. Фестываль адкрыўся юбілейным канцэртам аркестра Гродзенскай абласной філармоніі. На другі дзень выступілі беларускія і польскія джазмены.

Першае абласное свята-конкурс майстроў ткацтва і пляцення паясоў “Беларускі пояс” прайшло на Міншчыне, у Узденскім раёне. Удзел у ім прынялі 100 чалавек з 16 раёнаў вобласці — людзі рознага ўзросту і прафесій, якія прадставілі журы ўласныя калекцыі і спаборнічалі ў хуткасці і якасці вырабу паясоў у разнастайных традыцыйных тэхніках. Пяць лепшых работ з анатацыямі аўтараў былі перададзены ў Івянецкі музей традыцыйнай культуры. Вырашана ў далейшым праводзіць свята “Беларускі пояс” раз на тры гады.

Бітва расійскай і напалеонаўскай армій на рацэ Бярэзіне пад Барысавам стане асновай стварэння міжнароднага мемарыяльнага комплексу Памяці народаў Еўропы ў адзначэнне яе 200-годдзя. Ідэя атрымала станоўчую ацэнку ў Міністэрстве культуры, і ўжо распрацаваны эскізны праект, які аб’ядноўвае мемарыяльныя аб’екты, што ўжо існуюць, з новымі.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

# Наша агульная памяць, наша агульная слава…

**У Брэсце адбыўся выязны двухдзённы пленум Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, другі па ліку пасля мінулагодняга Курскага, што быў прысвечаны 65-годдзю Вялікай Перамогі. Тэматыка Брэсцкага пленума таксама сталася ваеннай, бо прамінуць сваёй увагай такую адметную дату, як 70-годдзе пачатку Вялікай Айчыннай вайны, расійскія і беларускія пісьменнікі проста не маглі. “Літаратура, апаленая вайной: мужнасць і адзінства народаў” — гэтак гучала асноўная тэма, узнятая літаратарамі на пленуме.**

У рабоце пісьменніцкага форуму прынялі ўдзел старшыня Саюза пісьменікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, старшыня Саюза пісьменнікаў Расіі Валерый Ганічаў, генеральны консул Генеральнага консульства Расійскай Федэрацыі ў Брэсце Мікіта Маткоўскі, вядомыя расійскія літаратары, грамадскія дзеячы Станіслаў Куняеў, Міхаіл Гадэнка, Канстанцін Скварцоў, Мікалай Дарашэнка, Мікалай Іваноў, Рыгор Іўліеў, Сяргей Кацькала, Юрый Носаў, Ларыса Баранава-Гончанка, Уладзімір Сярэдзін, Уладзімір Мусаліцін, Віктар Ліннік, Ігар Янін, Уладзімір Крупін. Беларусь прадстаўлялі пісьменнікі Генадзь Пашкоў, Міхась Пазнякоў, Анатоль Крэйдзіч, Васіль Шырко, Уладзімір Навумовіч, Міхась Башлакоў, Юрый Сапажкоў, Валерый Грышкавец, Уладзімір Ліпскі, Казімір Камейша, Павел Саковіч, Георгій Тамашэвіч, Валерый Гапееў, Зінаіда Дудзюк.

Кожны даклад, які гучаў на пленуме, з’яўляўся па сутнасці заклікам на барацьбу супраць скажэння гісторыі Вялікай Айчыннай, прыніжэння высокага подзвігу нашых народаў, размывання паняцця “патрыятызм”. Сапраўды, літаратура, друкаванае слова наогул маюць вялікую сілу. І толькі ад тых, хто карыстаецца ёю, залежыць, будзе сіла гэтая разбуральнай ці то будаўнічай; аб’яднае яна суайчыннікаў вакол вялікай ідэі ці то адасобіць кожнага ў доме яго з уласнымі дробнымі праблемамі і цяжкасцямі. Прафесіяналы ад літаратуры разважалі пра ролю пісьменніка ў грамадзянскім выхаванні сучасніка.

Безумоўна, у размовах гэтых гучала занепакоенасць тым, што адбываецца сёння на постсавецкай прасторы. Асабліва непрыемна было гасцям канстатаваць факт скажэння некаторымі расійскімі сродкамі масавай інфармацыі беларускіх падзей і рэалій. Паездка ўдзельнікаў пленума ў сельгаскааператыў “Астрамечава”, якім шмат гадоў кіруе Аляксей Скакун, знаёмства з вытворчай і сацыяльна-культурнай базай гэтай славутай гаспадаркі насамрэч уразіла расіян. Яны абяцалі беларускім калегам прыкласці усе намаганні, каб праўду пра Беларусь зрабіць здабыткам грамадскасці Расіі.

Другі дзень пленума стаўся цалкам днём экскурсійна-мемарыяльным. Удзельнікі форуму аддалі даніну павагі героям Вялікай Айчыннай, наведаўшы Брэсцкую крэпасць-герой і ўсклаўшы кветкі да Вечнага агню ля мемарыяла Славы.



**СяргейКАЦЬКАЛА, сустаршыня Праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі, галоўны рэдактар часопіса “Новая книга России”, празаік:**

— Ураканні ад форуму — самыя ўзвышаныя. Ужо тое, што ён праходзіў на свяшчэннай Брэсцкай зямлі, авеяны славай герояў Брэсцкай крэпасці, натхняла. Гэта — агульная наша граніца, дзе зроблены былі бацькамі нашымі першыя крокі да Вялікай Перамогі 9 мая. Пленум быў прысвечаны літаратуры Вялікай Айчыннай і сучаснай літаратуры пра вайну. Гэта рана будзе заўжды крывавіцца ў душах нашых, прымушаючы літаратараў, мастакоў, кампазітараў пісаць усё новыя і новыя творы. Для нас, пісьменнікаў, было надта важна сабрацца разам у такім святым месцы, каб яшчэ раз узгадаць пра мінулае, якое злучае нас, і паразважаць пра літаратуру. Мы дзяліліся з беларускімі калегамі думкамі, пачуццямі, планамі і адчувалі непамерную радасць ад разумення, суперажывання, паплечніцтва, ад якна асэнсаванай здагадкі, што на самой справе нельга разарваць тое, што нельга разарваць.



**Мікалай ІВАНОЎ, сустаршыня Праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі, празаік:**

— Узгадваючы пра былое, хочацца падкрэсліць: згодна касмічнаму, нябеснаму наканаванню мы былі скіраваны на перамогу з першага дня Вялікай Айчыннай вайны. Бо яна пачалася ў адно з самых светлых нядзельных свят — у дзень “Усіх святых, у зямлі расійскай праслаўленых”. І ўжо ў Брэсцкай крэпасці роўна 70 гадоў таму краіна ўзводамі, батальёнамі ўвайшла ў гэты сонм святых. І гэта пры тым, што на вайне не па-сапраўднаму не паміралі. Толькі за Радзіму! Франтавікі не проста здабылі перамогу ў 1945-м. Яны крывёй зарабілі нам, цяперашнім, гордасць за Айчыну. І вось ужо 70 гадоў мы, нібыта са шчытом, жывём з гэтай святой гордасцю нашых ветэранаў. І нам, пісьменнікам, без франтавых традыцый, без псіхалогіі і гордасці пераможцаў ніколі не стварыць нічога вартага. Менавіта пра гэта казаў я ў сваім выступленні на Пленуме Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы.



**Валерый ГАНІЧАЎ, старшыня Праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі, намеснік кіраўніка Сусветнага Рускага Народнага Сабору, доктар гістарычных навук, прафесар:**

— У Брэст наша дэлегацыя прыехала са Смаленска, дзе праходзіў фестываль літаратуры і мастацтва і ў межах яго — пленум Саюза пісьменнікаў Расіі “Рубяжы гісторыі, рубяжы літаратуры”. Смаленская зямля — гераічная зямля. Кожны метр яе паліты крывёю патрыётаў, якія ахвяравалі сваім жыццём, абараняючы радзіму ад фашысцкай навалы. У Смаленску мы спусціліся да Дняпра, апусцілі вянкі з запаленымі свечкамі на ваду і пусцілі іх уніз па цячэнні — у бок Беларусі і Украіны. Гэта была даніна памяці вялікаму подзвігу нашых народаў, які яны здзейснілі ў нялёгкай барацьбе з фашызмам у імя нашай свабоды і незалежнасці. І пакуль мы будзем памятаць пра гэты подзвіг, пакуль Смаленск будзе насіць гордае імя горада-героя, а Брэсцкая крэпасць — крэпасці-героя, наша брацтва застанецца непарушаным і святым.

## Медыяфорум

# Рэзалюцыя VI Беларускага міжнароднага медыяфоруму «Партнёрства ў імя будучыні: патрыятызм, духоўнасць, яднанне»

Мы, удзельнікі VI Беларускага міжнароднага медыяфоруму “Партнёрства дзеля будучыні: патрыятызм, духоўнасць, яднанне”, адзначаем узрастаючае значэнне сродкаў масавай інфармацыі, грамадскіх ініцыятыў у арганізацыі эфектыўнага процідзеяння сучасным выклікам і пагрозам, забеспячэнні ўстойлівага развіцця, заснавага на прынцыпах устойлівага мірапарадку, безумоўнай павагі суверэнных правоў дзяржаў.

XXI стагоддзе стала не толькі эпохай росквіту, раўнапраўя і яднання народаў. Узрастаючыя сацыяльна-эканамічныя супярэчнасці, палітычныя канфлікты, якія прыводзяць да шматлікіх разбурэнняў і чалавечых ахвяр — усё гэта, на жаль, жорсткая рэальнасць нашага часу.

Сёння СМІ сталі неад’емнай часткай паўсядзённага жыцця, набылі каласальную вагу ў грамадстве і агромністае ўздзеянне на свядомасць людзей, па сутнасці фарміруючы новую палітычную рэальнасць. У сувязі з гэтым шматкратна ўзрастае адказнасць прадстаўнікоў медыя за вынікі сваёй прафесійнай дзейнасці, якая набывае статус не толькі значымай маральна-этычнай, але і найважнейшай сацыяльна-палітычнай катэгорыі. Сёння як ніколі важна, каб журналістыка была чэснай і адказнай, ставіла заслону на шляху практыкі хлусні і маніпуляцый, перарўтвары̆шыся са зброі агрэсіўных палітычных памкненняў у моцны фактар яднання і стварэння дзеля агульнай будучыні.

Глабальныя праблемы могуць быць вырашаны толькі шляхам агульных намаганняў. Падмуркам для такой кансалідацыі і павінна стаць цывілізаваная еднасць еўразійскай прасторы, якая базіруецца на традыцыйных ідэалах справядлівасці, патрыятызму, салідарнасці, талерантнасці і ўвагі да духоўна-маральнага развіцця чалавека. Адзінства гістарычных лёсаў, разгалінаваная сістэма шматузроўневых узаемасувязей паміж нашымі краінамі і народамі пераканаўча сведчыць аб правільнасці такога шляху, дыктуе неабходнасць актыўнай рэалізацыі перспектыўных інтэграцыйных працэсаў.

Удзельнікі форуму выказваюць удзячнасць Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Міністэрству інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Міждзяржаўнаму фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД, Пастаяннаму Камітэту Саюзнай дзяржавы, Выканаўчаму камітэту СНД за магчымасць зацікаўленага абмеркавання актуальных пытанняў развіцця медыясферы ў сучасных умовах.

*г. Мінск,*
*24 чэрвеня 2011 года*

Літабсягі

# Памяці Янкі Купалы

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

**Ускладаннем кветак да магілы Янкі Купалы на Вайсковых могілках Мінска распачаліся традыцыйныя Купалаўскія дні, ініцыяваныя супрацоўнікамі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.**



Першы дзень — заўжды — дзень жальбы і смутку. 28 чэрвеня азмрочана для свядомых беларусаў сыходам вялікага Песняра. Мы памятаем, гэта здарылася ў ваенны 1942 год у расійскай сталіцы, у гасцініцы "Масква".

Колькі б ні адлічвала жыццё гадоў з гэтай сумнай даты, боль і непаразуменне не знікаюць з нашых сэрцаў. Смерць найвялікшага з беларускіх паэтаў застаецца неразгаданай таямніцай. Ён упаў у лесвічны пралёт з 10-га паверха. Што гэта было? Забойства? Няшчасны выпадак? Малаверагодна, што самагубства.

Узяўшы слова падчас жальбінаў на могілках, старшыня Грамадскай камісіі па справах аховы спадчыны пры Міністэрстве культуры Беларусі пісьменнік Анатоль Бутэвіч паспрабаваў па-філасофску асэнсаваць тое, што здарылася, распавёўшы пра гібель Песняра сімвалічна і метафарычна. Адпавядаючы імені, якое ён сам прыняў — Купала, — вялікі паэт усё жыццё прысвяціў пошуку той чароўнай купальскай Кветкі Шчасця для свайго спакутаванага народа. Але чорныя сілы пільна сцерагуць шчасце людское… Паэт загінуў па волі гэтых сіл. Аднак нават смерць яго стала перамогай, бо сапраўдныя героі не знікаюць — яны прарастаюць дзіўнай квеценню ў сэрцах удзячных нашчадкаў.

Старшыня Міжнароднага фонду Янкі Купалы, доктар філалагічных навук прафесар Вячаслаў Рагойша ўзгадаў, што Купала яшчэ ў 1918—1920 гадах распрацоўваў першую канцэпцыю незалежнай беларускай дзяржавы. А гэта быў час, калі далей размоў пра аўтаномію Беларусі ў складзе Расіі смеласць палітыкаў не заходзіла. Атрымліваецца, у тым, што сёння мы маем незалежную Беларусь, шмат у чым і заслуга яго, паэта Янкі Купалы, які навучыў беларусаў павазе да сябе і любові да свайго.

Пра беззаганнае служэнне Купалы беларускаму народу, яго клопат пра моладзь — будучыню Беларусі, сучаснасць яго паэзіі гаварылі ля помніка класіку навуковец Міхась Кенька, паэты Людміла Рублеўская, Хізры Садулаеў і іншыя.

Праграму Купалаўскіх дзён 6 ліпеня працягне моладзевая акцыя "Купальская ноч у Купалавым доме". 7 ліпеня ў будынку музея адбудзецца музычна-літаратурная імпрэза "Палымянае слова Паэта", якая завершыцца ўскладаннем кветак да помніка Песняру. А 9 ліпеня філіял музея "Вязынка" запросіць аматараў беларускай паэзіі, песні і народнай культуры на свята "З адною думкаю аб шчасці Беларусі…"

***На здымку: прафесар Вячаслаў Рагойша дэкламуе верш Купалы "Я адплаціў народу чым моц мая магла...".***

Артлінія

# Ars longa...

**Творчасці айчынных жывапісцаў, графікаў, скульптараў, з дня нараджэння якіх сёлета адзначаецца ад 100 да 140 гадоў, Нацыянальны мастацкі музей Беларусі прысвяціў выстаўку "И дольше века...". Для многіх з нас яна сталася сапраўдным адкрыццём, бо нагадала пра некаторыя гістарычныя постаці, якія адыгралі адметную ролю ў фарміраванні нацыянальнай школы выяўленчай творчасці, развіцці беларускага мастацтва, але імёны якіх, на жаль, вядомыя пераважна спецыялістам.**



Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Наталлі Купрэвіч

Фарміравалася выстаўка на аснове фондаў музея. Яе стваральнікі парупіліся прадставіць не тыя, можна сказаць, хрэстаматыйныя, знакамітыя творы, што бачаць наведвальнікі пастаяннай экспазіцыі ў зале беларускага мастацтва, а "падзабытыя" старонкі гісторыі нацыянальнай прафесійнай культуры. Увіце сабе: некаторыя з гэтых работ апошнім разам дэманстраваліся шырокай публіцы больш як паўстагоддзя таму!

Перад гледачом паўсталі ўзоры творчасці такіх розных майстроў, як Аркадзь Астаповіч (1896 — 1941), Абрам Астроўскі (1911 — 1979), Валянцін Волкаў (1881 — 1964), Ісак Давідовіч (1911 —1993), Мікалай Дучыц (1896 — 1980), Вольга Дзядок (1906 — 1974), Абрам Заборaў (1911 — 1984), Барыс Звінагродскі (1896 — 1982), Канстанцін Касмачоў (1911 — 1992), Сяргей Каткоў (1911 — 1976), Леў Лейтман (1896 — 1974), Натан Рапапорт (1911 —1987), Міхаіл Станюта (1881 — 1974), Уладзімір Старчакоў (1911 — 1968), Міхаіл Філіповіч (1896 — 1947), Мікіта (Анікіта) Хатулёў (1871 — 1941 /?/), Уладзімір Хрусталёў (1896 — 1954), Яўген Ціхановіч (1911 — 2005). У вітрынах размясціліся фотарэпрадукцыі твораў, якія цяпер на рэстаўрацыі (работы А. Маневіча, А.Касцялянскага, М. Грушко), а таксама здымак пано (рэальны памер 348х658 см) І. Давідовіча і Я. Ціхановіча для беларускага павільёна на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы.

Бясспрэчная пазнавальнаасветніцкая каштоўнасць гэтай экспазіцыі, зладкаванай НММ Беларусі ў межах праекта "Нашы калекцыі". Гледачы атрымалі магчымасць памеркаваць наконт ідэйна-эстэтычных прыярытэтаў пэўных эпох у грамадстве і ў індывідуальнай творчасці нашых мастакоў. А заадно яшчэ раз пераканацца ў слушнасці крылатага выслоўя: "Vita brevis, ars longa".

***На здымку: мастак Сяргей Волкаў ля жывапіснага палатна свайго знакамітага дзеда, народнага мастака БССР Валянціна Волкава, разам з госцем вернісажа — ксяндзом Уладзіславам Завальнюком.***

Повязі

# Калі думка за воляй услед…

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася прэзентацыя кнігі вершаў класіка казахскай літаратуры Абая на беларускай мове.**

Мікола БЕРЛЕЖ

"Стэпавы прастор" — кніга вершаў казахскага паэта другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя, неўміручага Абая, якая пабачыла свет на беларускай мове ў выдавецтве "Літаратура і Мастацтва". Фундатар выдання — Пасольства Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь. Адкрываючы прэзентацыю, казахстанскі пасол Анатоль Смірноў звярнуў увагу на тое, што ў беларускай і казахскай літаратур у апошнія гады складваюцца надзвычай добрыя, сяброўскія стасункі. Пра гэта сведчаць публікацыі на старонках беларускіх літаратурна-мастацкіх часопісаў "Полымя" і "Нёман", "беларускія" нумары часопіса "Простор", а таксама сустрэчы беларускіх і казахскіх пісьменнікаў у Мінску і Алматы.

Кнігу Абая на беларускай мове, перакладчыцкія здабыткі Міколы Мятліцкага, які для



"Стэпавага прастору" пераўвасобіў 90 вершаў, віталі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ігар Лапцёнак, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Уладзімір Гніламёдаў, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, празаік Алесь Савіцкі, паэт і рэдактар кнігі Вадзім Спрынчан і шмат хто яшчэ. Дарэчы, у розныя гады і Алесь Савіцкі, і Уладзімір Гніламёдаў удзельнічалі ў святкаваннях юбілеяў Абая на казахскай зямлі. Даклад акадэміка У. Гніламёдава, прысвечаны творчасці класіка, у якім знайшлося месца параўнанням паэзіі Абая і Ф. Багушэвіча, іншых пачынальнікаў беларускай літаратуры, надрукаваны ў Казахстане.

Выступаючы на святочнай імпрэзе, перакладчык Абая Мікола Мятліцкі расказаў пра тую ўзнёсласць, з якой ён працаваў над кнігай "Стэпавы прастор". Несумненна адно — і пра гэта гаварылі многія выступоўцы — стасункі беларускай і казахскай літаратур будуць доўжыцца, пашырацца. Ініцыятывы, якія спрыяюць гэтаму, ёсць і ў Пасольства Казахстана ў Беларусі, і ў Саюза пісьменнікаў Беларусі, і ў рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва".

***На здымку: перакладчык Мікола Мятліцкі і Пасол Рэспублікі Казахстан Анатоль Смірноў падчас прэзентацыі.***

З-пад пяра

Традыцыйнае мерапрыемства беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы "Свята беларускай культуры" прайшло ў Беластоку. Яго арганізатарамі сталі Беларускае грамадска-культурнае таварыства і Таварыства беларускай культуры пры фінансавай і творчай падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі. Тры тысячы гледачоў сабраў вялікі канцэрт у гарадскім парку, 26 аматарскіх калектываў беларускай меншасці выступілі на ім. Удзел у канцэрце прынялі таксама калектывы з Беларусі — фальклорная група "Купалінка" Белдзяржфілармоніі і танцавальны ансамбль "Гродзенскія карункі" Гродзенскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў.

Ірына АЛЯКСАНДРАВА

У Мінскай абласной бібліятэцы імя А.С.Пушкіна адбылася творчая вечарына з нагоды 70-годдзя вядомага пісьменніка Паўла Саковіча. Юбіляра віталі і віншавалі старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў, прадстаўнікі Міністэрства культуры Беларусі, Мінскага аблвыканкама, Любанскага райвыканкама. Юбіляру быў уручаны Ганаровы знак Міністэрства культуры "За ўклад у развіццё культуры Беларусі", а таксама Дыплом Саюза пісьменнікаў Беларусі, Ганаровыя граматы ўпраўлення культуры Мінаблвыканкама і Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.

Павел КУЗЬМІЧ

Выстаўка "Казакі — абаронцы Айчыны" адкрылася ў філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі "Дом-музей І з'езду РСДРП". Экспанатамі яе сталі ўнікальныя рэчы, сабраныя калекцыянерам Ігарам Бабіцкім, а таксама членамі клуба "Казачы Спас". Арганізатары выстаўкі паставілі перад сабой мэту расказаць пра такі малавядомы гістарычны эпізод, як удзел казачага атрада ў вызваленні Беларусі. На адкрыцці выстаўкі, у якім прынялі ўдзел ваенна-гістарычныя клубы, юныя артысты прадзюсарскага цэнтра "Аванты", а таксама ваенныя пашукавікі, хлопцы ў казачым адзенні дэманстравалі валоданне шашкай, адбываўся паказ абмундзіравання перыяду Другой сусветнай вайны, гучалі традыцыйныя казачыя песні.

Лізавета БАГАДЗЯЖ

У Віцебску ідзе аднаўленне Свята-Успенскага кафедральнага сабора. У рабоце прымаюць удзел расійскія і беларускія фундатары. Створаны італьянскім архітэктарам Іосіфам Фантана ў XVIII стагоддзі, храм уваходзіў у лік самых прыгожых у Расійскай імперыі. Ён быў узарваны ў 1936 годзе. Аднаўленне храма паводле архіўных матэрыялаў распачалося ў 1998 годзе з блаславення Патрыярха Алексія II. У 2009 годзе будоўлю наведаў Патрыярх Кірыл. І ўжо зусім нядаўна адбылося асвячэнне Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам так званага ніжняга храма ў гонар Праабражэння Гасподня Свята-Успенскага кафедральнага сабора.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

На рахунку пісьменніцы Эмы Усціновіч — ужо шэсць кніг. А днямі ў Маскве выйшаў яе чарговы паэтычны зборнік "Вячэрнія промні". Выданне даволі аб'ёмнае, з густам афармленае. Ёсць тут вершы філасофскія, а таксама — пра каханне, прыроду, родныя мясціны. У кнізе змешчана некалькі паэм. Для кожнага творцы новыя кнігі нібыта родныя дзеці — доўгачаканыя, цярпліва гадаваныя, любімыя і непаўторныя. Пісьменнік прыдзірліва назірае за "першымі крокамі" свайго "дзіцяці" ў свеце, ловіць кожны чытацкі водгук. Новая кніга Эмы Васільеўны ўжо знайшла свайго чытача на Гомельшчыне.

Галіна МІКАЛАЕВА

# Подых часу, альбо Покліч да пошуку

**Ці магчыма, каб кнігі, выдадзеныя ў рэгіёнах, распаўсюджваліся па ўсёй Беларусі? Што для гэтага трэба зрабіць выдаўцам? Ці ёсць на сёння дамовы з прыватнікамі на продаж кніг? Ці фінансуе "Белкніга" выданне кніг? І якіх?
На гэтыя і шэраг іншых пытанняў прагучалі адказы падчас чарговай "прамой лініі", арганізаванай "ЛіМам". Прыход у рэдакцыю дырэктара ААТ "Белкніга" Аляксандра Вашкевіча і начальніка аддзела гандлю Святланы Гук азначаў адкрытасць дыялогу з усімі зацікаўленымі: галоўная арганізацыя па распаўсюджванні кніг гатова да рашэння і разгляду любых праблем.**



## «Ці пісьменніцкая гэта справа?»

*— Добры дзень! Гэта Гродна турбуе. Старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Людміла Кебіч. Хацелася б запытацца наконт рэалізацыі кніг. На сённяшні дзень атрымліваецца так, што ў нашым аддзяленні мы самі дамовіліся з прыватным выдавецтвам, Гродзенскай друкарняй — выдаём кнігі за свой кошт. І рэалізоўваем іх таксама самі. Але на такую "не-пісьменніцкую" дзейнасць губляем шмат часу і свайго натхнення. Ці будзе "Белкніга" дапамагаць абласным аддзяленням рэалізоўваць кнігі?*

*І яшчэ вось такая парада вам: каб быў чалавек у абласных аддзяленнях, які б трымаў з намі сталую сувязь.*

**А. Вашкевіч:** — Сапраўды, кожны павінен займацца сваёй справай: пісьменнікі павінны пісаць, а мы — прадаваць кнігі. Рэформа, якая адбылася па аб'яднанні кнігагандлёвых прадпрыемстваў, закранула шмат праблем. На месцах застаюцца прадстаўнікі, з імі можна кантактаваць у рэгіянальных філіялах "Белкнігі", можна звязвацца і з аддзелам гандлю самой "Белкнігі", прадаставіць туды інфармацыю пра кнігі, а яшчэ лепш — кантрольныя экзэмпляры. Калі кніга насамрэч вартая, вы пасля можаце заключаць дамову з "Белкнігай", і выданне будзе прадстаўлена ў кнігарнях не толькі ў Гродзенскім рэгіёне, а і па ўсёй краіне.

*— Добры дзень, я чытачка з Мінска, Анжэла Праневіч. Скажыце калі ласка, у такім вялікім горадзе, як Мінск, з'явіцца калі-небудзь кніжны гіпермаркет, як ёсць ён, да прыкладу, у Кіеве? Я наведвала яго, там шмат паверхаў, кнігі рознай скіраванасці, можна пакінуць дзіця ў спецыяльным пакоі і правесці ў залах ці не паўдня, перагортваючы старонкі кніг, штосьці можна пачытаць. Зноў жа — папрысутнічаць на прэзентацыях.*

**А. Вашкевіч:** — Дзякуй за цікавае пытанне. Над гэтым мы працуем, цяпер актыўна вывучаем досвед Санкт-Пецярбурга, дзе кніжны гандаль выводзіцца на іншы ўзровень, я сказаў бы, кшталту адмысловых кніжных клубаў. Там на базе адной з кнігарняў кампаніі "Буквоед" (плошча гэтай крамы — 3000 кв. м.) створаны сапраўдны парк культуры і чытання, пра які вы гаворыце. І досвед іх вельмі карысны. Запрашаюць да сябе на сустрэчы нават і не кніжнікаў. Адны з апошніх гасцей — гурт "Scorpions". Была выдадзена кніга пра іх творчасць, і "Буквоед" змог запрасіць падчас гастроляў гэты гурт. Я магу гэтаму толькі пазайздросціць.

У нас таксама плошчы ёсць, вось кнігарня "Светач" на праспекце Пераможцаў мае 2000 кв. м. Мы таксама працуем з аўтарамі. З цікавых асоб, якія ўдзельнічалі ў нашых мерапрыемствах апошнім часам, можам назваць Януша Вішнеўскага, Дзмітрыя Глухоўскага. Але пашырыць дзейнасць да паняцця клубнага, сямейнага спосабу адпачынку пакуль немагчыма. Працуем на перспектыву, каб такое калі-небудзь атрымалася. Думаю, цягам апошняга года і ў нас нешта падобнае з'явіцца.

## Дысконтныя карткі? Гэта рэальна

*— Аляксандр Аляксандравіч, да вас звяртаецца Наталля Іванова з Мінска. Наведваю розныя крамы і вельмі часта карыстаюся ў іх дысконтнымі карткамі, якія даюць права на скідкі. Для мяне гэта хоць і невялікая, але падтрымка. Ці можна спадзявацца, што дысконтныя карткі з'явяцца і ў кнігагандлі?*

**А. Вашкевіч:** — На сённяшні дзень дысконтных карт у кніжным гандлі няма. Аднак у нас дзейнічае Палажэнне пра скідкі пры продажы тавараў за наяўны разлік у філіялах ААТ "Белкніга", кніжных крамах. Паводле яго ў залежнасці ад аб'ёму пакупкі прадстаўляецца скідка ад 3 да 5 працэнтаў. Адначасова дзейнічае сістэма продажу тавару ў крэдыт.

Мы азнаёміліся з досведам маскоўскіх калег, дзе дысконтныя карткі распаўсюджаны ў многіх буйных кнігарнях, і можна сказаць, што ААТ "Белкніга" ў перспектыве плануе ўкараненне такой сістэмы пры разліках.

*— І яшчэ пытанне. Вельмі часта ў кнігарнях можна ўбачыць уцэненыя кнігі. Наколькі эфектыўная сістэма скідак?*

**С. Гук:** — Сістэма скідак дапамагае прадаць літаратуру, якая па той цане, што была першапачаткова ўстаноўлена, не вельмі добра прадавалася. Гэта дае магчымасць прадаць кнігі, магчыма, са стратамі для сябе, але мы ў такім выпадку вяртаем грошы выдаўцам! І гэта вельмі важна. Акрамя таго, мы практыкуем сістэму скідак напярэдадні некаторых мерапрыемстваў — перад святамі, у тэматычных тыднях.

## Экспарт-імпарт

*— Вам тэлефануе Таццяна, студэнтка Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта. Вельмі часта даводзіцца чытаць англійскія творы ў арыгінале. Але ў беларускіх кнігарнях досыць сціплы выбар кніг, выдадзеных за мяжой. Ці плануецца пашырэнне такога асартыменту?*

**А. Вашкевіч:** — Так, але мы маем невялікае кола чытачоў, якія цікавяцца такой літаратурай. Таму раіў бы вам працаваць з "Белкнігай" пад заказ. Мы даставім неабходнае выданне ў максімальна кароткія тэрміны. А пашыраць гэта да вялікіх маштабаў, напэўна, не варта. Тым больш, што ёсць базавая кнігарня "Эўрыка" на вул. Куйбышава, якая з усіх найбольш спецыялізуецца на замежнай літаратуры: там можна шукаць неабходныя вам кнігі, пытаца пра іх у гандляроў.

*— І другое пытанне. Ці плануецца экспарт беларускай кнігі за мяжу?*

**А. Вашкевіч:** — Першыя такія пастаўкі ў Расію будуць арганізаваны выдавецтвам "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". Кнігі будуць размешчаны ў Маскве на адной з вялікіх кнігагандлёвых пляцовак і ў сетцы інтэрнэт-кнігарняў Ozon.ru. Прычым пастаўляцца будуць нядаўна выдадзеныя кнігі, якія ў сціслыя тэрміны трапяць да расійскага пакупніка. Паглядзім, як прымуць такі праект. Калі эксперымент пройдзе паспяхова, то такім шляхам пойдуць і іншыя выдавецтвы.

*— А ў іншыя краіны беларуская кніга зможа трапіць?*

**А. Вашкевіч:** — Ведаеце, я бываю на міжнародных кніжных выстаўках, назіраю цікавасць насельніцтва ў розных дзяржавах да беларускай кнігі. У Літве, прыкладам, вялікая цікавасць да кніг, якія датычаць спадчыны Радзівілаў, пра Грунвальдскую бітву. Напэўна, гэта справа часу.

## Дыялог з бібліятэкамі

*— Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага турбуе. Пытанне пра тое, якую мэту ставіла "Белкніга", арганізоўваючы аб'яднанне з абласнымі структурамі кнігагандлю. Ці не ўскладніцца працэс набыцця літаратуры?*

**А. Вашкевіч:** — Мэт такога аб'яднання было некалькі. Першая — зрабіць прадпрыемства больш прывабным для патэнцыяльнага інвестара. Дзяржмаёмасць у 2012 годзе выставіла дастаткова вялікі пакет акцый "Белкнігі" на продаж. Для інвестара зручней мець справу з адной буйной арганізацыяй, чым з некалькімі маленькімі. Сёння прадпрыемства стала фактычна адной юрыдычнай асобай.

Другое. У рамках аб'яднання адбываецца аптымізацыя структуры. З тым, каб паменшыць штаты галаўных рэгіянальных прадпрыемстваў, паколькі на абслугоўванне аднаго разліковага рахунку для аднаго таварнага патоку патрэбна менш людзей. Гэта таксама важна.

Трэцяя мэта — зрабіць зручнай для ўсіх сістэму паставак. У тым ліку і ў бібліятэкі. Улічваючы, што аб'яднанню ўсяго два месяцы, магчыма, ёсць нейкія моманты, над якімі трэба працаваць. Падказвайце, давайце сумесна выбудоўваць дзейнасць, каб яна была камфортнай для ўсіх: пачынаючы ад чытача, выдаўца да "Белкнігі".

*— Добры дзень! Віцебская абласная бібліятэка імя У. Леніна. Як "Белкніга" плануе працу з бібліятэкамі? Нас цікавяць метады цэнавага прасоўвання тавараў, спосабы гандлю…*

**С. Гук:** — На сённяшні дзень існуе пэўнае палажэнне пра скідкі, дзе прапісана сістэма іх прадастаўлення на пастаўку кніг у бібліятэкі. Калі раней вы працавалі са скідкамі толькі па сацыяльна значнай літаратуры, то цяпер скідкі распаўсюджваюцца на ўсю прадукцыю, незалежна ад таго, сацыяльна значная літаратура альбо яна ідзе без датацый.

*— Аляксандр Аляксандравіч, тэлефануюць з Гомеля. Дырэктар гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Таццяна Уласава. Не сакрэт, што на сённяшні дзень для бібліятэк дастаткова складана набываць расійскую літаратуру. Гэта звязана з многімі прычынамі, у тым ліку і з тым, што закупку мы павінны ажыццяўляць у пастаяннага гандлёвага прадстаўніка. У сувязі з гэтым у мяне пытанне: ці будзе выступаць "Белкніга" ў якасці такога гандлёвага прадстаўніка ў стасунках з расійскімі выдавецтвамі? І другое пытанне: ці будуць прэферэнцыі бібліятэкам для камплектавання і набыцця літаратуры ў дзяржаўных выдавецтвах? Бо некаторыя з іх не ажыццяўляюць дастаўку. Гэта для нас вялікая праблема.*

**А. Вашкевіч:** — Найперш пра тое, што датычыць афіцыйнага прадстаўніцтва. У Мінску такія арганізацыі, як Дзяржаўны пагранічны камітэт Беларусі, Міністэрства абароны рэспублікі Беларусь, набываючы ў нашых буйных кнігарнях літаратуру, бяруць пісьмо, што мы з'яўляемся афіцыйным прадстаўніком і ніякіх праблем пры правядзенні дзяржзакупак у іх няма. І вы гэтаксама можаце да нас звяртацца.

**С. Гук:** — Я ўжо расказвала пра льготы па набыцці бібліятэкамі літаратуры для вашых калег з Віцебскай бібліятэкі. Паўтару: сёння ёсць такія скідкі, і не толькі на сацыяльна значную літаратуру. Будзем разам працаваць!

## Кнігагандаль у гарадках

*— Святлана з Карэліч Гродзенскай вобласці. У нас у Карэлічах няма кнігарні, толькі аддзел ва ўнівермагу, дзе асартымент аднаўляецца вельмі марудна. Ці можна заказаць пэўную кнігу па каталогу?*

**С. Гук:** — Па Мінску мы можам прапанаваць вам наступны варыянт. Шэраг кнігарняў горада працуе па схеме "Кніга — поштай". Напэўна, ведаеце яе з савецкіх часоў. Прыкладам, у "Светачы" гандаль па сістэме "кніга — поштай" вельмі актыўны. Думаю, вы вырашыце ўсе свае праблемы.

***— І яшчэ пытанне. У гарадскім пасёлку Мір праходзяць масавыя культурныя мерапрыемствы. Ці не плануеце вы падчас іх кірмашы ці выязны гандаль?***

**С. Гук:** — Раней у нас такое практыкавалася, праўда, разава, калі кнігарня "Светач" падчас аднаго з канцэртаў аркестра Міхаіла Фінберга арганізоўвала гандаль. Спроба аказалася ўдалаю. Але на гэтым праца прыпынілася. Думаю, у бліжэйшы час зрухі да лепшага будуць.

**А. Вашкевіч**: — Дзякуй вам за падказку! Мы якраз думаем пра пашырэнне сеткі і абавязкова дойдзем да вашага рэгіёна.

Але што да кнігарняў у раённых цэнтрах, то не ўсё так проста. Вось у Рэчыцы кнігарні няма. Выйшлі мы на райвыканкам з прапановай: можам адкрыць краму. Але атрымліваем адказ: у цяперашні час вольных памяшканняў, размешчаных у цэнтры горада, няма. І такое бывае, хоць усе разумеюць значнасць кнігі.

### Паміж «Светачам» і «Ведамі»

***— Музыкант з Мінска Вікторыя Рыгораўна. Не зусім, можа, да вас пытанне… Але тым не менш. На працягу многіх гадоў у цэнтры Мінска была цудоўная крама "Ноты". Яна знаходзілася непадалёк ад плошчы, якую нефармальна называлі Музычнай. На ёй — Беларускі саюз кампазітараў, Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі, 10-я сярэдняя музычная школа і Рэспубліканская гімназія-каледж пры акадэміі музыкі. І навучэнцы, і педагогі карысталіся менавіта гэтай нотнай крамай па вуліцы Леніна. Цяпер гэты куток практычна пазбаўлены крыніцы спецыяльнай літаратуры па тэорыі і гісторыі музыкі, нотных выданняў… Ці плануецца адкрыць у цэнтры горада такую спецыялізаваную краму? Каб была магчымасць набываць, можа нават і букіністычную нотную літаратуру, бо выданняў такога напрамку ў нас няшмат.***

**С. Гук:** — Пра тое, што кнігарня "Ноты" знікла з карты Мінска, мы таксама шкадуем. Сапраўды, яна была адным з цэнтраў культурнага жыцця ў горадзе. Але час ідзе, і сёння даводзіцца адрасаваць вас у нашу кнігарню "Светач", там дастаткова моцны аддзел музычнай літаратуры. Ва ўсякім разе, тое, што выдаецца з музычнай літаратуры ў нашай краіне, мы стараемся накіроўваць у гэтую кнігарню. Вы самі разумееце: выдаўцоў музычнай літаратуры няшмат, гэта карпатлівая праца, сабраць асартымент для прадстаўлення ў кнігарні — складана. Што да букіністыкі… Ёсць добры аддзел букіністычнай літаратуры ў Доме кнігі "Веды" на Карла Маркса. Там вы знойдзеце і музычную літаратуру ў тым ліку.

### Пра сваё, надзённае

***— Добры дзень, гэта Навапалацк, кнігарня № 24, старшыня прафсаюзнай арганізацыі Алена Васільчанка. Цікавіць пытанне па заработнай плаце. Пры пераходзе ў падпарадкаванне да "Белкнігі" нам абяцалі, што ўсё будзе добра…***

**А. Вашкевіч:** — Будучыня залежыць толькі ад вашай працы.

***— Мы сумленна працуем і планы выконваем!***

**А. Вашкевіч:** — Тое, што змяншэння зарплаты не будзе, паабяцаю вам дакладна. Яе трэба павялічваць, я разумею гэта. Таму ўсе грошы, якія будуць зарабляцца, будуць траціцца толькі на зарплату. Праграмы па рамонце і рэканструкцыі, якія існавалі, пакуль што звернутыя.

***— Гэта Свіслач, Тацццяна. Наколькі работнікі кнігагандлю ведаюць ідэйна-мастацкія вартасці кніг, якія яны прапануюць?***

**А. Вашкевіч:** — Зразумела, што ўзровень падрыхтоўкі людзей, якія ў нас працуюць, розны. Па стажы працы ў галіне, па адукацыі. Але не стану гаварыць, што няма спецыялістаў, якія глыбока валодаюць пытаннямі гандлю. Напэўна, тут будзе дарэчы згадаць пра конкурс, які праводзіцца ў "Белкнізе", — конкурс прафесійнага майстэрства сярод прадаўцоў нашай кнігагандлёвай сеткі.

Наш прадстаўнік — вядучы спецыяліст Тацццяна Шлапак — удзельнічала і ў Трэцім Усерасійскім конкурсе кнігагандлёвых работнікаў у 2010 годзе ў Маскве, дзе заняла ганаровае трэцяе месца.

### Хто ходзіць з рыдарам?

***— Прамая лінія? У мяне пытанне такога кшталту. Цяпер асабліва заўважны на побытавым узроўні тэхнічны прагрэс. Менш людзей чытаюць кнігу традыцыйную, усё больш карыстальнікаў Інтэрнэта альбо — на вуліцах — людзей з планшэтамі. Як вы ўспрымаеце такія формы чытання? Ці ёсць будучыня ў кнігі папяровай? Хацелася б пачуць вашыя адносіны да ініцыятывы выпуску электронных падручнікаў для школьнікаў і чытання іх на планшэтах.***

**А. Вашкевіч**: — Сапраўды, жыццё не стаіць на месцы, яно рухаецца. Мы ж прадаём кнігі традыцыйныя і з гэтага жывём. Таму будучыню кнігі друкаванай бачу, бліжэйшыя гадоў дваццаць істотнага змяншэння сегменту гэтага рынку не будзе. А электронная кніга ёсць, і планшэты, рыдары ёсць у продажы і ў сістэме "Белкнігі".

**С. Гук:** — Летась у Маскве быў Усерасійскі конкурс работнікаў кнігагандлю, у ім удзельнічаў і наш спецыяліст, я пра гэта згадвала. Хатнім заданнем з'яўлялася конкурсная праца, якая так і называлася: "Ці ёсць будучыня ў друкаванай кнігі?" Усе 20 удзельнікаў адказалі: ёсць. Прычым аргументы былі досыць розныя. Удзельнічалі таксама людзі з вялікім вопытам працы — і яны пагадзіліся з тым, што кніга традыцыйная саступіць месца электроннай не можа.

***— Я, аднак, як студэнт бачу, што маладыя людзі ходзяць не ў бібліятэкі, а ў інтэрнэт-клубы. Як, на ваш погляд, можна павысіць цікавасць да кнігі і чытання?***

**С. Гук**: — Так, моладзь больш цікавіцца тэхнічнымі навінкамі. Але ўсё жыццё вы не станеце чытаць электронныя кнігі. Пройдзе некалькі гадоў — вы вернецеся да звычайнай папяровай і пойдзеце ў бібліятэку. І сваіх дзяцей будзеце вучыць не па электроннай кнізе, а па звычайнай — па азбуцы, па казках з ілюстрацыямі, кніжках-размалёўках.

**Дзяжурная па "прамой лініі" Ірына ТУЛУПАВА**

**фота Кастуся Дробава**

## *Актуальна*

**З наведвання сімвала беларускага Сярэднявечча — Мірскага замка, авеянай легендамі сядзібы ў Шчорсах, уваскрэслага Любчанскага і ўзвышанага над будзённасцю Навагрудскага замкаў распачалася сумесная калегія міністэрстваў культуры і спорту і турызму Рэспублікі Беларусь. Тэма тычылася развіцця турыстычнай індустрыі і спадарожнай інфраструктуры паблізу аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны.**

# Праз мінулае — у будучыню

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

Жыццё Мірскага замка пасля ўвядзення ў эксплуатацыю яго першай чаргі як быццам завіравала напоўніцу. У замак людзі ідуць штодня, паасобку і групамі: колькасць наведвальнікаў за 5 месяцаў 2011 года павялічылася ў параўнанні з тым жа перыядам 2010 у паўтара раза, больш як у два разы сталі заказваць экскурсій. Таму і пазабюджэтныя даходы павялічыліся ў 6 разоў і склалі ў агульных выдатках музея 47 працэнтаў.

Любчы пашчасціла ў тым, што характарызуюць яе не толькі як гістарычнае месца, але таксама і як помнік цвёрдасці людзей, якія яго адналяюць. На працягу дзевяці гадоў работнікі і валанцёры фонда "Любчанскі замак" актыўна працуюць на крапасных збудаваннях і разлічваюць выключна на сябе. За гэты час ўдалося зрабіць многае!

Старшыня фонду "Любчанскі замак" Іван Пячынскі ў гутарцы з журналістамі зазначыў: "Трэба даводзіць людзям, што калі ёсць у іх родных мясцінах гістарычныя помнікі, магчыма, крыж, пахаванне, капліца, то можна гэта давесці да ладу! У нас хапае валанцёраў. І добра, калі складваліся такія ўмовы, як цяпер на Любчанскім замку. Трэба, каб мясцовыя ўлады мелі праграмы па аднаўленні нашай спадчыны і ўсіх аб'ектаў, якія ёсць на іх тэрыторыі. У Любчы яшчэ варта захоўваць рэнесансныя забудовы, парк, які цяпер мы імкнёмся ўнесці ў спіс гісторыка-культурнай спадчыны — адзіны на Беларусі чысты ліпавы парк з сістэмай алей. Работы на замку вядуцца з 2003 года. Але з самага пачатку мы не прасілі сродкаў. Пачалі працаваць — і тады нас заўважылі і сталі дапамагаць".

Прыкладам неабыякавых адносін да аб'ектаў спадчыны назавуць на згаданай калегіі работу, якую праводзіць Грамадскі дабрачынны фонд "Любчанскі замак".

Інфармацыя з матэрыялаў калегіі: каб прыцягнуць уласнікаў і ўсіх зацікаўленых у праўдзенні работ па захаванні і аднаўленні гісторыка-культурных каштоўнасцей, у другой палове 2011 года Міністэрствам культуры будзе праведзены "Конкурс на лепшы прыклад аховы нерухомых матэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей".

Адзін са старажытнейшых гарадоў Беларусі Навагрудак захоўвае ў сабе напамін пра слаўныя мінулыя часы. Апроч велічных вежаў Навагрудскага замка ў горадзе ёсць царква, равесніца Мірскага замка, а таксама Фарны касцёл. Памяць пра гістарычныя падзеі захоўвае касцёл архангела Міхаіла першай паловы XVIII ст., Мікалаеўская царква, татарская мячэць, дом-музей Адама Міцкевіча, гара Міндоўга, у якой, па легендзе, пахаваны сам Міндоўг са сваім тронам. Але раскопкі не праводзіліся: легенда працягвае жыць. А яшчэ сваёй увагі патрабуе памятнае для горада памяшканне Дома культуры XIX ст. Распрацаваны неабходныя дакументы па капітальным рамонце, мадэрнізацыі і частковай рэстаўрацыі яго фасада.

Пакуль жа ідзе праца. Рэстаўрацыйныя работы на Навагрудскім замку фінансуюцца з бюджэту (з рэспубліканскага летась выдаткавана каля 42 млн. руб), пры дапамозе сродкаў, атрыманых ад рэалізацыі рэспубліканскай тыражнай латарэі "Скарбніца", заснавальнікам якой выступае Міністэрства культуры (у мінулым годзе — 39 млн. руб), а таксама ахвяраванняў, якія паступаюць на **банкаўскі рахунак № 3642521000622 Беларусбанка, ЦБУ № 416 філіяла № 413 г. Ліды.**

Сёлета акцыя пашыраецца, з'яўляюцца і новыя ініцыятывы, у прыватнасці, праходзяць дабрачынныя канцэрты. Іх ідэю падтрымалі вядомыя дзеячы культуры Беларусі, народныя артысты Анатоль Ярмоленка, Міхаіл Фінберг, дзяржаўны ансамбль "Песняры" ды іншыя. Таварыства "Белрэстаўрацыя" выпрацавала скрыні па зборы дабраахвотных ахвяраванняў, якія будуць размешчаны ва ўстановах культуры ў Навагрудку, Мінску — у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, Нацыянальным мастацкім і Нацыянальным гістарычным музеях ды ў іншых буйных установах культуры.

Досвед Карэліцкага і Навагрудскага раёнаў Гродзенскай вобласці прыйшоўся дарэчы. Тэма, як зазначыў ва ўступным слове міністр культуры Павел Латушка, "вельмі важная не толькі для сферы турызму, але і для вырашэння пытанняў аховы гісторыка-культурнай спадчыны і развіцця ўстаноў культуры".

На калегіі разглядаліся пытанні стратэгічныя і прыватныя — усё тое, што адкрывае магчымасці для рэстаўрацыі і прыстасавання аб'ектаў спадчыны да сучасных патрэб. Такім чынам павялічыцца і колькасць помнікаў архітэктуры, якія могуць быць уключаны ў гаспадарчую і турыстычную сферы дзейнасці. Як паведаміў міністр спорту і турызму Алег Качан, цяпер у сферу турыстычнага абслугоўвання ўваходзяць больш як 5 тысяч аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны.

Напрыклад, з моманту ўводу ў дзеянне Гомельскага палацапаркавага ансамбля ў 2004 годзе колькасць наведвальнікаў у 2010-м павялічылася ў 3,5 раза; Палаца Пацёмкіна (Крычаўскі раённы краязнаўчы музей) — у 1,2 раза; пускавога комплексу Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж" — у 1,7 раза.

## *Медыяфорум*

# Беларусь — фарпост сацыяльнай справядлівасці

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

Медыйная прастора самым цесным чынам спалучана з мастацкай літаратурай, мастацка-публіцыстычнымі ацэнкамі сённяшняй рэчаіснасці. У гэтым яшчэ раз пераканаліся ўдзельнікі аднаго з майстар-класаў медыяфоруму, арганізаваным у краме "PRэзентацыя" выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". Вялі дыялог з беларускімі пісьменнікамі і журналістамі намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Наш современник" Аляксандр Казінцаў, часопіса "Российская Федерация сегодня" доктар гістарычных навук Аляксандр Чэрняк, прафесар Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага універсітэта доктар палітычных навук Аляксандр Лабуш, дырэктар РВУ "ЛіМ", галоўны рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" Алесь Карлюкевіч. Падзяліўшыся сваімі развагамі пра стан сучаснай публіцыстыкі ў расійскіх і беларускіх літаратурна-мастацкіх выданнях, мадэратары запрасілі аўдыторыю да ўдзелу ў дыскусіі па найболей актуальных пытаннях.

І беларускі бок, і шырокія масы ў Расіі вельмі цікавіць будучыня агульных беларуска-расійскіх стасункаў. І на гэтым фоне, асабліва ўважліва падкрэсліў дадзены аспект Аляксандр Лабуш, здзяйсняе дэструктыўная дзейнасць асобных СМІ, што надзвычай крытычна падыходзяць да тэмы адзінства народаў двух блізкіх дзяржаў, імкнуцца ізноў, як ужо здаралася ў нашай савецкай гісторыі, прыўнесці матывы разбуральніцтва, псеўдадухоўнасці. З вялікай цікавасцю слухалі прысутныя выступленне Аляксандра Казінцава, які яшчэ пазнаёміў удзельнікаў майстар-класа і са сваёй кнігай "Вяртанне мас". Не задумваючыся пра тое, ці задавальняе арганізаваная імі сацыяльная палітыка ўвесь народ, шмат хто з уладароў на постсавецкай прасторы агрэсіўна знішчае фундамент гуманістычнага развіцця грамадства, імкнецца да сцвярджэння безаблічнасці і тым самым накіроўвае людзей у бездань. Таўстасумы апранаюцца сёння ў надзвычай прыгожыя строі, але мэты перад сабою ставяць далёка не сімпатычныя. І Аляксандр Казінцаў, і Аляксандр Чэрняк, якія вельмі шмат выступае ў расійскім друку з артыкуламі, прысвечанымі нашай краіне, у адзін голас гаварылі пра выключную ролю Беларусі, асабіста Прэзідэнта нашай краіны Аляксандра Лукашэнкі ва ўмацаванні славянскай еднасці, у захаванні той сусветнай прасторы, якая спрыяла б развіццю гуманістычнасці, ідэалаў дабра і сацыяльнай справядлівасці.

Жыццё немагчымае без змен — і ў эканоміцы, і палітыцы, і ў мастацтве. Але гэтыя змены нічога не вартыя, калі ў жаданні іх рэалізаваць губляецца шараговы чалавек, калі ў грамадстве гаспадарыць бездухоўнасць, калі прыніжаюцца маральныя пастулаты развіцця. І гэтая пазіцыя агучвалася літаратарамі ўсімі ўдзельнікамі не толькі асобнага майстар-класа, але і ўсяго медыяфоруму "Партнёрства ў імя будучыні: патрыятызм, духоўнасць, яднанне".

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# Сэрца маніць не можа

**Аўтары кнігі "Пад крыжам лёсу" — людзі знаныя: ваенны гісторык, прафесар Анатоль Шаркоў, лаурэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" публіцыст Уладзімір Грозаў і журналіст Юрый Бясцвіцкі. Тым не менш ёсць у яе і яшчэ адзін аўтар — памяць.**

Як вядома, кожнае пакаленне імкнецца зірнуць на гісторыю сваёй Айчыны з вышыні новага ведання. Асабліва гэта тычыцца такой векапомнай падзеі, якой з'яўляецца Вялікая Айчынная вайна, а калі глядзець шырэй — Другая сусветная вайна. Аўтары паставілі перад сабой надзіва ўдзячную задачу — як мага больш аб'ектыўна вызначыць прычыны, ход і вынікі таго, што не забыта і ўвогуле не падлягае забыццю. Высвятляюць яны гэта праз памяць народную, што сканцэнтравалася ва ўспамінах тых, хто зведаў усе жахі таго, што нёс з сабой фашызм. Добрай падмогай у працы сталі таксама шматлікія матэрыялы, у тым ліку і ўзятыя з архіваў, якія дагэтуль не траплялі ў пільнае вока даследчыкаў. Пэўная частка іх замоўчвалася наўмысна, пра што гаворыцца ў звароце да чытача: "К сожалению, мифы, которые сопровождали войну, всё ещё существуют. Из новых архивных документов извлекалось зачастую лишь только то, что работало на конъюнктурные интересы средств массовой информации и недобросовестных исследователей. Вне поля зрения осталось ещё много писем и дневниковых записей её участников, которые при вводе их в научный оборот существенно дополнили бы картину военных событий".

Многае з таго, што замоўчвалася, па розных прычынах успрымалася неабавязковым, часам у чымсьці і другасным, а таму не атрымлівала належнай агалоскі, а то і падавалася тэндэнцыйна, і можна знайсці ў кнізе "Пад крыжам лёсу".

Узяць хоць бы ўступленне Чырвонай Арміі ў 1939 годзе на тэрыторыю заходніх абласцей Беларусі і Украіны. У якіх толькі грахах не абвінавачваецца былое савецкае кіраўніцтва! Разам з тым "забываецца", якія зверствы, у прыватнасці, супраць беларусаў тварылі ў Заходняй Беларусі пілсудчыкі. Падобная праўда замоўчваецца па той прычыне, што яна сяму-таму не патрэбная («Польскі "калідор"»).

Па сутнасці ўпершыню так шырока гаворыцца ў кнізе пра лёс тых нашых суайчыннікаў, якія пасля заканчэння савецка-фінскай вайны і далучэння Карэліі да Савецкага Саюза пераехалі туды на пастаяннае месцажыхарства («Карэльскае "шчасце"»). З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны яны апынуліся ў канцлагерах, утрыманне ў якіх было не менш, а часам і больш жорсткае, чым у нямецкіх. Дарэчы, гэтым праславіўся і сумна вядомы лагер, які знаходзіўся ў тагачасным мястэчку Бяроза-Картузская Палескага ваяводства (цяпер Бярозаўскі раён Брэстчыны).

Кніга "Пад крыжам лёсу" распавядае пра шмат якія падзеі, вядомыя і такія, пра якія амаль не пісалася. У прыватнасці, гэта тычыцца лёсаў тых, хто на момант нападу фашысцкай Германіі на Савецкі Саюз знаходзіўся ў сталінскіх лагерах ("Яны маглі б выкупіць сваю віну"). Становішча гэтых людзей па сутнасці двойчы трагічнае. Пераважная большасць з іх беспадстаўна была аб'яўлена "ворагамі народа", а калі пачалася вайна, іх масава знішчалі, хоць многія прасіліся на фронт. На жаль, трапілі туды далёка не ўсе.



Супраць такой праўды таксама нікуды не дзенешся. Аўтары кнігі скрупулёзна шукаюць ісціну. Часам гэта даецца ім надта няпроста, але яны ўпэўнена ідуць абраным шляхам, расказваючы пра падзеі, лёсы, разумеючы, што "одна изломанная судьба — трагедия. Миллионы судеб — уже статистика". Але ўсведамляючы і іншае, а ў дадзеным выпадку і вельмі важнае: "статистика военных судеб — предостережение истории". Важны і такі момант: пра што б ні расказвалася, гэта робіцца з усведамленнем, што зверствам, бясчынствам, нахабству ворага супрацьстаялі не толькі мужнасць, гераізм, высокі патрыятызм савецкіх людзей, а і сам дух народны. Той дух, які Леў Талстой некалі назваў рускім духам. Цяпер ва ўсёй сваёй паўнаце раскрыўся, праявіўся сваімі лепшымі якасцямі савецкі дух.

*"Па сутнасці ўпершыню так шырока гаворыцца ў кнізе пра лёс тых нашых суайчыннікаў, якія пасля заканчэння савецка-фінскай вайны і далучэння Карэліі да Савецкага Саюза пераехалі туды на пастаяннае месцажыхарства («Карэльскае "шчасце"»). З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны яны апынуліся ў канцлагерах, утрыманне ў якіх было не менш, а часам і больш жорсткае, чым у нямецкіх. Дарэчы, гэтым праславіўся і сумнавядомы лагер, які знаходзіўся ў тагачасным мястэчку Бяроза-Картузская Палескага ваяводства (цяпер Бярозаўскі раён Брэстчыны).*

Як вядома, па-ранейшаму знаходзіцца нямала жадаючых ачарніць савецкую рэчаіснасць. На шчасце, у нашай краіне іх куды менш, чым у іншых дзяржавах на постсавецкай прасторы, але тым не менш яны сустракаюцца. Кніга "Пад крыжам лёсу" — па сутнасці адказ усім тым, хто ўзводзіць паклёп на Савецкі Саюз, на яго ўклад у разгром нямецкага фашызму. Адказ гэты коратка зводзіцца да наступнага: была краіна, быў народ, які ўвогуле нельга зламаць, паставіць на калені. Тыя адзінкі адшчапенцаў, якія сталі здраднікамі, калабарантамі, перайшоўшы на бок захопнікаў, а шмат хто з іх праліў нямала і крыві сваіх суграмадзян, канечне ж, ніяк не маглі паўплываць на агульны ход падзей.

Нямала старонак прысвечана і савецкім разведчыкам, а некаторым з тых, хто яшчэ жывы, дадзена слова. Што ж, байцам нябачнага фронту ёсць што ўспомніць і пра што расказаць. Прапаноўваюць аўтары і свой погляд на падзеі, звязаныя з забойствам гаўляйтара Кубэ ("У цені ў Мазанік").

Аднак, не адмаўляючы значэння гэтых і іншых матэрыялаў, што складаюць сутнасць погляду аўтараў на падзеі Другой сусветнай вайны, асабліва сімптаматычна з'яўленне раздзелаў "Свет над купаламі", "Галгофа", "Ад Сібіры да Белага мора". Калі казаць коратка, то змест іх зводзіцца да наступнага: дзяржава і Царква, стасункі афіцыйнай улады і царкоўнай у час усенароднай барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Не сакрэт, што многія ў акружэнні Гітлера, ды і тыя на савецкай зямлі, хто ўспрымаў яго збаўцам ад бальшавізму, разлічвалі на яе падтрымку. Як быццам, для гэтага былі ўсе падставы: "Когда по радио Юрий Левитан зачитывал сообщение о начале Отечественной войны с гитлеровской Германией, в атеистической стране была в разгаре другая война — против Бога. 1943 год в Советском Союзе объявили завершающим годом безбожной пятилетки — не должно было остаться ни одного священника, храма, мечети, синагоги. Гонения были направлены против всех верующих, независимо от вероисповедования: христиан, мусульман, иудеев".

Праціўнікі савецкага ладу, аднак, памыліліся. Прынамсі, адносіны Маскоўскай Патрыярхіі з дзяржавай не абвастрыліся: "Церковь не поддалась искушению рассчитаться с властью за понесённые ею невосполнимые материальные потери, массовые репрессии и гибель многих тысяч священнослужителей и рядовых прихожан". Таму "патриотизм духовенства и верующих России, Белоруссии и востока Украины оказался сильнее обид и неприятия, вызванных долгими годами гонений на Православие".

На канкрэтных прыкладах паказваецца, як Царква ўнесла свой важкі ўклад у святую справу Перамогі. У прыватнасці, ужо летам 1941-га ўсе праваслаўныя прыходы краіны пачалі збіраць грашовыя ахвяраванні ў Фонд абароны краіны, а ў студзені 1943 года па настаянні мітрапаліта Сергія Сталін дазволіў адкрыць банкаўскі рахунак для ахвяраванняў Рускай Праваслаўнай Царквы. Не засталася ў баку і Беларуская Праваслаўная Царква. Пра яе ўклад відаць з ліста архіепіскапа Мінскага і Беларускага Васілія сакратару ЦК КП(б) П. Панамарэнку, тэкст якога прыводзіцца ў кнізе.

Расказваецца і пра асобных святароў, якія справу барацьбы з ворагам успрынялі як сваю кроўную. Многія не толькі словам Божым натхнялі народ на перамогу. Так, протаіерэй Аляксандр Раманушка з Палесся з 1942-га па лета 1944 года ўдзельнічаў у баявых аперацыях, хадзіў у разведку. Калі ж яму давялося адпяваць забітага прыслужніка гітлераўцаў, ён пры вялікай колькасці народа заявіў на могілках: "Братья и сестры, я понимаю большое горе матери и отца убитого, но не наших молитв и "Со святой упокой" своей жизнью заслужил во гробе предлежащий. Он — изменник Родины и убийца невинных детей и стариков. Вместо "Вечной памяти" произнесём же "Анафема"!» Падышоўшы да іншых паліцаяў, Раманушка пачаў угаворваць іх выкупіць сваю віну. Яны паслухаліся пратаіерэя: адразу ж з могілак пайшлі ў партызаны.

Прыведзены ў кнізе і прыклады, што сведчаць, як ваяўнічыя атэісты, а то і людзі, у якіх за душой не было нічога святога, ламалі лёсы, пазбаўлялі жыцця тых, хто верай і праўдай служыў Богу. Пра аднаго такога пакутніка Праваслаўнай Веры — уздзенскага святара Міхаіла Навіцкага — расказваецца ў раздзеле "Галгофа". Цікавы лёс ягонага малодшага сына Мікалая, які на паўгода раней за радавога Аляксандра Матросава здзейсніў аналагічны подзвіг. Хоць камандзір палка адразу напісаў рапарт аб прысваенні Навіцкаму звання Героя Савецкага Саюза, але адбылося гэта толькі праз некаторы час. Аўтары кнігі так тлумачаць прычыну: "Возможно, представление на него столь долго ходило по различным кабинетам и инстанциям из-за принадлежности к роду священников. Невзирая на значимость подвига, проверить благонадежность семьи героя и его довоенную биографию было служебным долгом работников особых отделов".

…Самая страшная ў гісторыі чалавецтва вайна, з пачатку якой споўнілася ўжо семдзесят гадоў, усё аддаляецца і аддаляецца ад нас. Мы любім паўтараць: "Нішто не забыта, ніхто не забыты". Гэта сапраўды так, бо вельмі і вельмі шмат робіцца па зберажэнні памяці народнай, па вяртанні гістарычнай праўды. Ды няма мяжы спасціжэнню глыбіннай сутнасці таго, як было і што было. Таму з'яўленне кожнай новай кнігі, што вяртае нас у часы ўсенароднага подзвігу не можа не радаваць. Асабліва калі яна такая, як "Пад крыжам лёсу" Анатоля Шаркова, Уладзіміра Грозава і Юрыя Бясцвіцкага. Не проста сумленна напісаная, а сэрцам вынашаная. Яно ж, як вядома, маніць не можа.

## Убачанае



# Акуляры Алена Гінзберга

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

Сярод літаратараў ёсць канкурэнцыя, гэта агульнавядома. Кожны стараецца хоць бокам, але пралезці ў гісторыю. Некаторым удаецца — часам не надта прывабнымі шляхамі, але ў гісторыі літаратуры яны застаюцца. Нават і не напісаўшы чагось талковага. Але, зрэшты, гаворка не пра гэта.

Я пра што тут — пра тое, чаму найбольш заўважныя зоркі ў нас *фігуруюць* на небасхіле так доўга, што ададраць іх адтуль няма ніякай магчымасці. Разам з тым, новыя імёны — заўсёды праз злучок. Хоць бы яны і пісалі лепш. Бо спрацоўвае адвечны закон інерцыі, для нас наогул дужа характэрны. Усталяваная традыцыя, нарматыўны *кірунак* зацвярджаецца амаль назаўжды, і той, хто спрабуе выйсці за межы, атрымлівае не пашану, а па шапцы.

Але што гэта за межы? У слове мяжаў не існуе, а значыць, слоўнае мастацтва не мусіць зацыкліваца на адным спосабе думкі, вобразнасці, рытмікі і рыфмавання. Бадай, першым у нашай літаратуры гэта зразумеў Багдановіч — і адразу трапіў "пад раздачу" артадаксальных "нашаніўцаў", якія засунулі ягонае "зачараванае царства" ў доўгую шуфляду.

У падобнай сімвалічнай шуфлядзе дагэтуль застаецца многае. Калі ў жывапісе і тэатральным мастацтве сёння назіраецца немалое ажыўленне, то ў літаратуры, можна сказаць, застой. Бо вершы і апавяданні ствараюцца паводле шаблону. І добрым пісьменнікам лічыцца той, хто здолеў, не накуралесіўшы, хаця б вытрымаць шаблон.

Літаратуры неабходны пастаянныя абнаўленні, пошукі, нават памылкі і недакладнасці. Апошнія ствараюць прэцэдэнт, з якога можа вырасці новая эстэтыка, — калі да таго будуць прыкладзены адпаведныя творчыя намаганні.

Іншая справа, што новай эстэтыкай нельга апраўдваць неахайнасць, штучнасць, а то і наогул — бяздарнасць. Але ўсе гэтыя рэчы праяўляюцца паступова, іх убачыш толькі тады, калі яны ўвойдуць у сістэму. Дачасна выносіць суровы вердыкт — злачынства.

І што ж мы маем — майстравітых улаўраваных шаблоншчыкаў і захліпаных ва ўласных комплексах новых пісьменнікаў, якія праз закінутасць і непатрэбнасць, цяжкасці з друкаваннем сваіх твораў і кніг часам пачынаюць пісаць горш, а тады і перастаюць пісаць увогуле.

Разасабленне пакаленняў — штука непазбежная. Але зусім недарэчна, калі яно пачынае разасабляць літаратуру, штурхаючы яе фактычна да ўзаемаадмаўлення пісьменнікаў і, як вынік, да бездані.

Так што калі вы ўбачыце, як на сцэну вылазіць хамаваты малады смаркач у акулярах Алена Гінзберга і, заклаўшы руку ў кішэню, пачынае чытаць свае вершы як рэп — не зганяйце яго адтуль і не смейцеся з ягонага рэпу. Лепш сказаць яму: "Прывітанне!" І паціснуць руку.

Бо хто, калі не ён, заўтра заменіць вас?



# Простае-простае

Алеся ЛАПІЦКАЯ

Тры апавяданні, змешчаныя ў пятым нумары часопіса "Полымя", адметныя сваёй "правільнай" ідэйнай скіраванасцю. Васіль Шабалтас у "Каціным бароне" ўздымае праблему прагматызму, якому варта супрацьпаставіць сумленнасць, шчырасць і добразычлівасць. Тэма "Сястрычкі" Уладзіміра Гаўрыловіча — Вялікая Айчынная вайна, у якой удзельнічае духоўна моцная, вельмі адказная шаснаццацігадовая медсястра Ганна. Янка Галубовіч у "Споведзі" засведчвае праблему маральнасці ў сучасным грамадстве і паказвае, якім несправядлівым можа быць чалавечы лёс.

Але ці захопяцца гэтымі творамі чытачы? Як вядома, добрая тэма патрабуе сучаснага, якаснага раскрыцця… Так, у апавяданні "Сястрычка", якое, верагодна, мела дакументальную аснову, аўтар імкнуўся зафіксаваць галоўныя падзеі пачатку франтавога жыцця гераіні, падкрэсліць Ганніну дысцыплінаванасць праз яе канкрэтныя, інфарматыўныя адказы на пытанні вайскоўцаў.

Што магло б вылучыць твор Гаўрыловіча, заканамерна змешчаны ў майскім нумары? Напэўна, спроба пісьменніка ўбачыць вайну вачыма шаснаццацігадовай дзяўчыны, дакладна ўявіць псіхалагічны стан гераіні — а гэта, магчыма, абумовіла б павелічэнне натуралістычных дэталей ці зварот аўтара да "плыні свядомасці". Аднак светаўспрыманне дзяўчыны надзвычай неарыгінальнае і заідэалагізаванае ("Я паеду з раненымі. Я камсамолка, і мне можна даверыць…"), сны медсястры не выконваюць уласнай мастацкай функцыі (Ганна бачыць у іх дакладна тое, што адбывалася з ёю ў час вайны), а "чорныя Чарнігаўскія лясы" — надта зразумелы сімвал, які не патрабуе трохразовага паўтору. Было б добра, каб аўтар на працягу твора падвёў чытача да разумення Ганнінага настойлівага жадання вярнуцца на фронт: пасля тых цяжкасцей, якія перажыла дзяўчына, ейнае стаўленне да вайны магло быць зусім іншым.

У "Споведзі" Галубовіча пераказваюцца асноўныя падзеі з жыцця галоўнага героя Янука, прычым іх пераліку пазайздросцілі б усе героі серыялаў: смерць жонкі і сына, бойка ва ўласнай спальні з палюбоўнікам другой жонкі, два гады турмы за зламаныя саперніку рукі-ногі, на наступны дзень па вяртанні з-за кратаў — смерць другой жонкі з тым самым палюбоўнікам у гаражы… Сюжэт для цэлага рамана — прычым аднаго добра выпісанага эпізоду з такой біяграфіі хапіла б на выдатнае экзістэнцыйнае апавяданне. Пры ўсёй факталагічнасці тэксту зноў бракуе псіхалагізму: і Гаўрыловіч, і Галубовіч перадаюць стан героя найчасцей праз тыповыя характарыстыкі ягонага стану ("Ганна заплюшчыла вочы, з якіх выкочваліся гарошыны слёз", "ногі яго падкасіліся", "застагнаў, моцна заскрыгатаў зубамі"). Даволі нечаканы фінал апавядання: у час пахавання жонкі Марыніна маці абвінавачвае ў смерці дачкі аднаго Янука. Аднак нанізаць адну на адну ўсе згаданыя падзеі здолеў бы практычна кожны літаратар — іншая справа, колькі арыгінальнага сэнсу ўкласці ў твор…

Апавяданне "Каціны барон" Шабалтаса — твор таксама гуманістычны, азначаны ўвагай і спагадай да простага, добрага чалавека — сямідзесяцігадовага Гетманава, які за мізэрны заробак "вылізвае" заводскі ГАЗ-51, на ўласныя грошы набывае дэталі для машыны, а да таго ж, падбірае на дарогах кацянят і шчанюкоў і корміць цэлую "сабача-каціную ферму". Гетманава звальняюць, але аматараў працаваць на старэнькай машыне не знаходзіцца, і старому зноў прапануюць ехаць: дабрыня перамагае, бо "без такіх гетманавых нам век з галечы не выбіцца".

Твор аптымістычны, але, як і папярэднія, у стылёвым плане вельмі просты. Зусім не абавязковыя "фармалістычныя вычварэнствы" — але хіба за час, пакуль пісаліся творы, не было ў пісьменнікаў назіранняў за прыродай, цікавых жыццёвых уражанняў, з якіх магло б атрымацца некалькі арыгінальных метафар ці параўнанняў? Апавяданне Янкі Галубовіча крыху вылучаецца як з мастацкага боку, так і імкненнем пісьменіка ўвесці ў тэкст сучасныя і даўнейшыя выслоўі ды прыказкі. А вось нашто пісьменнікам банальныя "ярка свяціла сонца", "халаднаватая жнівеньская раніца", "ляціць як матылёк на агонь", плеаназмы "чырвоная кроў" і "жоўты пясок"? Ці не лепш абыходзіцца без "сталых" эпітэтаў і шукаць сваё, імкнуцца стварыць уласны адметны мастацкі свет? Ёсць, вядома, знакаміты тэзіс і пра тое, што "ўсё геніяльнае проста". Але якой "геніяльная прастасць" павінна быць?



# Маналіт для Веры

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Апавяданне Святланы Кражавай "«Маналіт» Веры", надрукаванае ў майскім нумары часопіса "Нёман", стала для мяне знаёмствам з творчасцю аўтара. Выпускніца факультэта псіхалогіі Яраслаўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, яна з'яўляецца аўтарам кнігі апавяданняў "Тайна зямлі Эзо", выдадзенай пад прозвішчам Крашэннікава-Кражава, а таксама шэрагу твораў, што публікаваліся ў калектыўных зборніках. Танальнасць вершаў паэтэсы, змешчаных у альманаху "Дзень паэзіі — 2005", намякала на магчымасць знаёмства з лірычна-рамантычным апавяданнем. Тым больш прыемна было пераканацца ў стылістычнай рознабаковасці аўтара. "«Маналіт» Веры" прысвечаны складанаму лёсу сучаснай жанчыны, былой супрацоўніцы праектнага інстытута. На пачатку 1990-х гадоў яе ўстанова спыніла сваё існаванне, і Вера, якая засталася адна з дзіцем на руках, уладкавалася кладаўшчыцай у краму-дыскаўнтар…

Хто з чытачоў не завітваў туды хоць бы раз на некалькі тыдняў у пошуку больш танных тавараў? Але ці знойдуцца ў беларускай літаратуры творы, чый аўтар перанёс туды дзеянне? Такім чынам, апавяданню ўласціва наватарства ў выбары тэматыкі, што стала першым кампанентам поспеху. Аднак яго, відавочна, не хапіла б, калі б С. Кражава не здолела па-майстэрску выбраць адпаведную танальнасць. Самым простым шляхам магло стаць паглыбленне ў сацыяльную тэматыку, абвінавачванне савецкай або капіталістычнай сістэмы, якая давяла людзей да такога стану. Складаным, але не зусім апраўданым, — нагрувашчванне сюжэта дэтэктыўнымі паваротамі ці злачынствамі. Аўтар выбрала найбольш удалы для жанру шлях: паспрабавала намаляваць звычайны лёс звычайнай супрацоўніцы дыскаўнтара.

Задума С. Кражавай нарадзіла ў мяне пэўныя асацыяцыі і паралелі са славутым апавяданнем А. Салжаніцына "Адзін дзень Івана Дзянісавіча". Рускі пісьменнік меркаваў "апісаць адзін усяго дзень у падрабязнасцях, у драбнютках падрабязнасцях, прытым дзень самага простага рабацягі. (…) І нават не трэба нагнятаць нейкіх жахаў, не трэба, каб гэта быў нейкі асаблівы дзень, а — шараговы, вось той самы дзень, з якога складаюцца гады і тут адаб'ецца ўсё наша жыццё". Бадай, будзе пэўным перабольшваннем параўноўваць лёсы лагернага вязня і супрацоўніцы дыскаўнтара, умовы зняволення і працы. Але ўражанне ад звычайнага дня з жыцця дыскаўнтара атрымалася надзвычай моцнае.

Нягледзячы на тое, што перад чытачамі разгортваецца прыватная гісторыя адной жанчыны, яе лёс можна смела абагуліць з біяграфіямі тысяч прадстаўнікоў інтэлігенцыі, вымушаных выжываць на пачатку 1990-х. Ва ўздзеянні на чытачоў, у абагульненні жыццёвых лёсаў цэлага пакалення бачыцца другі кампанент поспеху.

Трэцім кампанентам выступае гуманістычнасць апавядання. Нягледзячы на складаны лёс і цяжкое жыццё гераіні, твор прываблівае сваёй унутранай цеплынёй. Згаджуся, мянушка галоўнай гераіні — "Маналіт" — сведчыць пра яе нешматслоўнасць, замкнёнасць, трываласць. Але хто здагадваецца, якое душэўнае багацце хаваецца ў характары Веры! Вельмі дарэчным выглядае наяўнасць у апавяданні вобраза Леаніда, яе грамадзянскага мужа. Аўтарская рэмарка пра тое, што пасля сумеснай паездкі на мора "нога Веру с полгода не беспокоила, хромота стала почти незаметной" сведчыць, што не толькі агульная атмасфера ў грамадстве, але і абыякавасць і бяздушнасць людзей сталі прычынай драмы гераіні.

Чаго не хапіла апавяданню, дык, на маю думку, яркіх характарыстык у абмалёўцы асоб другога плана. Не зусім зразумелая асоба дачкі Веры, яе ўзаемаадносіны з маці. Акрамя таго, не пакідае ўражанне, што ў творы С. Кражавай апавядальна-бытавыя дэталі часам пераважаюць над мастацкімі.

Адной з праблем беларускай літаратуры з'яўляецца тая акалічнасць, што значная частка таленавіта напісаных твораў уздымае тыя праблемы, якія апрыёры не могуць да бясконцасці прыцягваць увагу сярэдняга класа (гісторыя, самасвядомасць, мова, развагі героя-інтэлігента пра сэнс жыцця і г.д.). Тыя ж творы, якія закранаюць праблемы гэтай праслойкі, часцей за ўсё напісаны на такім узроўні, што не прэтэндуюць на статус мастацкай з'явы. Значэнне апавядання "«Маналіт» Веры" ў тым, што яно ў пэўнай ступені закрывае гэтую "белую пляму" і, несумненна, прыцягвае да літаратуры больш шырокія колы чытачоў.



# Трывожная вясна

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

Гэта першы нумар часопіса, у якім прывітальнае слова напісала новы рэдактар выдання — паэтка Таццяна Сівец. Пакуль яшчэ цяжка зразумець, якія менавіта змены адбудуцца ў рэдакцыйнай палітыцы, але вернасць традыцыям пазначана. Разам з тым нумар структураваны не зусім выразна, а "паводле гамбургскага рахунку" мае толькі адзін сапраўды значны твор — пачатак гістарычнага рамана 25-гадовай Надзеі Статкевіч "Папялішча" з уступным словам Адама Мальдзіса. Але прааналізаваць яго штотыднёвік "ЛіМ" плануе пасля завяршэння публікацыі.

Дэбютуюць у "Маладосці" на гэты раз двое — паэт Кірыл Сыцько і празаік Таццяна Стадольнік.

Нізка вершаў дэбютанта Кірыла Сыцько мае ўсе прыкметы пачатковоўства — як перавагі, так і заганы. Прасцей за ўсё прадэманстраваць гэта на прыкладзе лепшага верша з падборкі, які, уласна, і распачынае яе:

*Калісьці зрэзаў цноты ружу,*
*Ты быў шчаслівы, як дзіцё…*
*Карункі ў вокнах,*
*звонку — сцюжа,*
*А тут — віно і забыццё…*

*І ты яе кахаў бязмерна*
*І мроіў: будзе так да скону,*
*І так аддана, шчыра верыў*
*Крывіцкай вернасці іконе.*

*Мінула два тысячагоддзі,*
*Сядзіш, углядваешся ў бель,*
*А сэрца думкай карагодзіць,*
*Што ружа зрэзала цябе.*

Стандартныя рыфмы, часта — недакладныя (але не ад высокага майстэрства, а праз неахайнасць), залішняя метафарычнасць, у якой губляецца лірычны сюжэт. Разрэджанасць рытму і памеру (асабліва ў другім чатырохрадкоўі). І ў той жа час — прывабны вобраз. Складаная метафара, якая магла рассыпацца ў пыл, паддалася аўтару. І, нават абцяжараны фармальнымі памылкамі, верш склаўся ў цэласную карціну.

У астатніх выпадках пачуццё меры падманвае аўтара. Так, у вершы "Неба як джэм…" абсалютна відавочна аслабленне тону пасля слоў "Светлавое поле…". Гэта азначае, што аўтар не здолеў зрабіць элементарнага — выкрасліць слабыя радкі, каб палепшыць верш. Зрэшты, ва ўсіх астатніх, не названых вершах нізкі яшчэ вельмі мала яснасці, тым часам як няяснасць не пераходзіць тут у мастацтва.

У апавяданнях Т. Стадольнік адчуваецца пэўная нявызначанасць уласнае платформы — праз тое і не складваецца стыль. У эклектычнай слоўнасці змяшаны і побытавая пошласць "непрыдуманых гісторый", і імпрэсійная мройнасць, а ў той жа час трапныя дэталі, назіранні і свежыя — свае! — думкі. Бадай, няблага было б гэтай аўтарцы паспрабаваць сябе ў прозе для дзяцей і падлеткаў. Прынамсі, апошні твор "Самая, самая…" (апавяданнем цяжка гэта назваць) схіляе да высновы, што Т. Стадольнік здатная ўзнавіць пэўныя свае назіранні, чуйна ставіцца да дзіцячага свету: "Схаваць вочы. Не бачыць. Пацалаваць у лоб — панацэя ад споведзі. Нельга! Шкада яго, не вытрымае расчаравання: мама ж самая-самая… Без варыянтаў. Шкада сябе: хто ж яшчэ так наіўна будзе верыць у маю бязгрэшнасць. А так хочацца, каб хто-небудзь верыў. Так працей верыць самой…"

Ладную частку нумара складаюць юбілейныя матэрыялы. Так, друкуецца нізка абразкоў Паўла Саковіча "Зялёныя пацеркі" (аўтар святкаваў у маі 70-годдзе), надрукаваны і артыкул Т. Выскваркі "Не знікай з небасхілу майго…" пра нядаўняга юбіляра М. Башлакова.

Даволі вусцішна чытаць успаміны Святланы Явар пра свайго бацьку, Барыса Сачанку (да 75-годдзя з дня яго нараджэння), усведамляючы, што і яе самую, такую маладую, ужо забрала смерць. І проста жахліва гучаць апошнія радкі ўспамінаў: "У глыбіні душы ён [Барыс Сачанка] заўжды заставаўся паэтам, які тонка адчуваў хараство і вабнасць быцця. Ён захапляўся жыццём, яго непаўторнасцю і непераможнасцю. Найбольш бацьку падабалася вясна, калі прырода абуджаецца і ўсё жывое радуецца роскіту. Хай жа павесялее яго душа, калі Вы чытаеце мае радкі! Да пабачэння, татачка, да сустрэчы… *Твая малодшая дачка Святлана*". Што тут скажаш… Наогул, светлая вясна (ды ўжо і лета) прынесла многа страт для нашай культуры, а каб пералічыць імёны тых, хто адышоў за апошнія паўгода, стала б сапраўды горка і трывожна.

Няхай жа будзе больш светлых і радасных дзён — і ў літаратуры, культуры, навуцы. Думаецца, іх нараджэнню якраз і павінна спрыяць "Маладосць" — як у прамым, так і ў пераносным сэнсе.

# «Краіна мая, радасць мая, песня мая маладая...»

## Максім ТАНК

### Байцу

*Таварыш, адкуль ты — ўсё роўна.*
*З Масквы ці з усходніх шляхоў.*
*Агнём за Дняпром і за Нёмнам*
*Абняты прасторы палёў.*

*Там воранаў чорныя хмары*
*Над шыбеніцамі крычаць.*
*Хутчэй, не спыняйся, таварыш,*
*Ідзі Беларусь вызваляць!*

*Даўно там цябе выглядаюць,*
*Як вецер развее туман.*
*Даўно уначы там палаюць,*
*Як вехі, агні партызан.*

*Хутчэй нясі катам расплату*
*За смерць сваіх родных братоў.*
*Хай кожная куля, граната*
*Б'е чорных фашысцкіх звяроў.*

*Дзе ступіш, там зноў уваскросне*
*Жыццё на пакутнай зямлі,*
*Дзе пройдзеш, там новыя вёсны*
*Засеюць зноў нашы палі.*

*Калі ж зноў над вольнай радзімай,*
*Як сцяг свой, разгорнеш зару, —*
*Ў вяках тваё мужнае імя*
*Праслявіць мая Беларусь.*

**1943**

## Аркадзь КУЛЯШОЎ

### Маці

**(Народная балада)**

*На бітву крывавую*
*сына праводзячы з хаты,*
*На шчасце і ўдачу пасеяла маці*
*зярняты.*
*Калі дачакаецца маці*
*з тых зерняў усходу,*
*Сын прыйдзе з паходу,*
*Са славаю прыйдзе з паходу.*

*Дарэмна ўздыхала,*
*Чакала*
*І шчасця, і долі,—*
*Упалі зярняты*
*На камень шчарбаты*
*У полі.*

*Дарэмна здалёку*
*Паўнюткія вёдры цягала,*
*Той камень у спёку*
*Вадой і слязьмі палівала.*

*Да кроплі іх выпіў задымлены*
*Камень пякельны:*
*Два леты кіпелі на ім яны,*
*Як на патэльні.*

*Ля каменя ўпала*
*Цярплівая маці ў знямозе,*
*У роспачы скардзіцца стала*
*Знаёмай дарозе:*
*"Пачуй мае словы,*
*Улашчы свой камень суровы,*
*За гэта вярбою*
*Гатова я стаць над табою.*
*Твайго пешахода*
*Я ў засень ад спёкі б хавала,*
*У час непагоды*
*Ад бур і дажджоў засланяла;*
*Старымі рукамі*
*Твой дол падмятала б штодня я.*
*Улашчы свой камень,*
*Дарога мая палявая".*

*Сказала дарога ёй:*
*"Скардзішся, маці,*
*Дарма ты,*
*Не ўзыдуць зярняты,*
*Бо ўпалі на камень шчарбаты.*
*Не першая ты каля камня заходзішся*
*з жалю,*
*Не раз на ім сеялі, але ні разу*
*не жалі.*
*На нашыя нівы*
*Яго закацілі чужынцы;*
*Чужы і маўклівы,*
*Даўно ён ляжыць пры гасцінцы.*
*З-за Буга яго*
*Закацілі і кінулі ў полі,*
*Каб сына свайго*
*Не дажадалася маці ніколі.*
*Не ўзыдуць зярняты ні ўвосень*
*на ім, ні вясною,*
*Пакуль ён не стане зямлёю,*
*Закляты табою".*

*З дарогі ўставала*
*І каменю маці казала:*
*"Вады табе мала,*
*І матчыных слёз табе мала,*
*Цяпер я крывёю*
*Сваёю*
*Цябе праклінаю:*
*Ты станеш зямлёю,*
*А каменем стану сама я".*

*І тройчы такою*
*Кляцьбою*
*Той камень пракляла.*
*Стаў камень зямлёю,*
*Сама ж яна каменем стала.*

*На камні былым пры дарозе*
*ўзыходзяць зярняты.*
*Вяртаецца сын па дарозе з паходу дахаты.*

**1943**

## Мікола СУРНАЧОЎ

### Паходная

*Нам яшчэ, магчыма, давядзецца*
*Піць ваду балотную з канаў,*
*І не хутка мірна усміхнецца*
*Рог вясёлкі паміж росных траў.*

*Нам, магчыма, лёс насуліць многа*
*Непрадбачных і звычайных спраў;*
*Баявую не адну дарогу,*
*На якой смерць часта сустракаў,*

*На якой не зацвіце маліна,*
*Кветкі сохнуць, стогнуць*
*крумкачы*
*І, як здань, зямлі маёй дзяўчына*
*Плача горка, косы ірвучы.*

**Паўднёвы фронт**

### Ліст да маці

*Ля хаціны тваёй сасновай*
*Скрозь байцы ў шынялях,*
*бушлатах.*
*Маці!*
*Стрэнь іх там добрым словам,*
*Пачастуй, чым наш край багаты.*
*Ведай, родная маці, —*
*Дзеці*
*Пакідаюць свае дубровы,*
*Сенам пахнучыя павеці,*
*Водар пасек сваіх ліпнёвых,*
*Недаспелую канюшыну,*
*І жыты, як чарот, густыя,*
*І адзіную ў свеце дзяўчыну,*
*І юнацтва сны залатыя.*

*Можа стацца,*
*Ад кулі злое*
*Злягуць многія ў час атакі,*
*На акопах і буераках*
*Адцвіце іх жыццё маладое.*
*Ты прыкрый іх павекі,*
*Мятай*
*Усцялі іх магілы-курганы*
*І паплач, як над сынам чаканым,*
*Майскай раніцай сіняватай.*

**1943 год**
**Запарожжа**



Фота Кастуся Дробава

## Пімен ПАНЧАНКА

### Краіна мая

*Краіна мая, радасць мая,*
*Песня мая маладая!*
*Па нівах тваіх, па тваіх гаях*
*Сынава сэрца рыдае.*

*Ты часта прыходзіш ка мне,*
*як сон.*
*Хмараю прыплываеш,*
*Птушкай садзішся на ціхі клён,*
*Звонкім дажджом ападаеш.*

*Тады ўспамінаецца ўсё да драбніц,*
*Што звязана з родным краем, —*
*Як жыта шуміць, як агонь зарніц*
*На дне азёр дагарае.*

*Як летам спякотным за днямі дні*
*Ішлі па іржышчы калючым...*
*Мы ранілі ногі аб камяні,*
*І нам не было балюча.*

*І не было нічога ярчэй*
*За сонца на родным небе,*
*І не было нічога смачней*
*Матчынага хлеба,*

*Вада з прыдарожнага ручая*
*Была саладзей за мёд нам...*
*Краіна мая, маці мая,*
*Час твой цяжкі і гаротны!*

*Топча, катуе тваю зямлю*
*Вылюдак ашалелы.*
*Я кроў да апошняе кроплі пралью,*
*Каб толькі табе палягчэла.*

*Ні славы, ні скарбаў я не хачу,*
*Мне б толькі прайсці непрыкметна,*
*Зямлю сваю пад нагамі адчуць,*
*Надыхацца родным паветрам.*

**1942**

## Сцяпан ГАЎРУСЁЎ

* * *

*"Паміраю, але не здаюся" —*
*З крапаснай палыхае сцяны.*
*Як душой утрапёнай сальюся*
*Я —*
*з героямі страшнай вайны?*

*Ім не ўбачыць касмічныя трасы,*
*Мала хто застанецца жывы.*
*Ды вышэй усялякай акрасы*
*Іх жыцця*
*клінапіс штыкавы.*

*Каб не гэты напал барацьбітны,*
*Гурбы сажы паўсюдна б ляглі.*
*Чалавека ж у стан першабытны*
*Злыдні лёгка вярнуць бы маглі.*

*Не давалася лёгка бяссмерце —*
*Смерць высокія брала дары;*
*Расплаўляліся танкі аб сэрцы,*
*Ад дыхання трымцелі муры.*

*Не было ні лістка, ні травінкі,*
*Што мінулі агню і свінца.*
*..........................................*
*Так і нам да апошняй крывінкі*
*За Радзіму стаяць.*
*Да канца!*

# Наперадзе — развіццё

**2 ліпеня мінулага года ў «ЛіМе» з'явіўся новы праект — "Кніжны свет", мэтай якога стала асвятленне пытанняў айчыннага, ды і замежнага, кнігавыдання і кнігагандлю, знаёмства чытачоў з новымі кнігамі. Здаецца, не так даўно гэта было, але наш праект ужо адзначае свае першыя ўгодкі і з гэтай нагоды прымае віншаванні ад сяброў, калег і партнёраў.**



**Намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ігар Лапцёнак:**

— Штогод у Беларусі як дзяржаўнымі, так і прыватнымі выдавецтвамі выпускаецца мноства кніг. Ці будуць яны паспяховымі для выдаўца і карыснымі для чытача — залежыць ад многіх фактараў: папулярнасць аўтара, рэклама, грамадскі рэзананс. Думаецца, што для спажыўца (то бок чытача) значнай дапамогай, арыенцірам у бясконцай колькасці айчыннай і часткова замежнай літаратуры з'яўляецца праект "Кніжны свет". На яго старонках — матэрыялы пра лепшыя беларускія выданні, што сталі лаўрэатамі конкурсу "Мастацтва кнігі", расповеды і пра новыя праекты.

"Кніжны свет" падаецца карысным і для вытворцы (выдаўца) і пасярэдніка — кнігагандляра. Ён забяспечвае платформу для абмену вопытам, прафесійнымі сакрэтамі, служыць пляцоўкай для абмеркавання актуальных праблем, тэндэнцый сусветнага кніжнага бізнесу, у тым ліку і пытанняў, звязаных з электроннай кнігай. Прыемна, што "Кніжны свет" звяртае ўвагу і на замежны вопыт працы ў галіне.

Асобнай часткай культурнага жыцця краіны з'яўляецца ўдзел у міжнародных кніжных выстаўках-кірмашах. У 2010 годзе Беларусь стала ганаровым госцем XXIII Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўкі, дэлегацыя нашай краіны ўзяла ўдзел у Вільнюскім, Санкт-Пецярбургскім і іншых буйных кніжных форумах. На высокім узроўні прайшла і Мінская міжнародная кніжная выстаўка, у якасці ганаровага госця якой у гэтым годзе выступіла Германія. Прыемна, што ўсе гэтыя падзеі знайшлі адлюстраванне на старонках праекта. Але нас чакае яшчэ шмат цікавых падзей, сустрэч. Першы год існавання "Кніжнага свету" пацвердзіў яго жыццяздольнасць, таму наперадзе — толькі развіццё.



**Дырэктар Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі Алена Іванова:**

— Няўмольна хутка ляціць час, і вось ужо "Кніжны свет" адзначае свой першы дзень нараджэння. Ідэя гэтага праекта нарадзілася далёка за межамі Беларусі, у сонечным Туркменістане, дзе ў 2009 годзе праходзіла Ашхабадская кніжная выстаўка-кірмаш, а Рэспубліка Беларусь была яе ганаровым госцем. Вядома, што падобныя мерапрыемствы заўсёды натхняюць прафесіяналаў-кніжнікаў на нейкія праекты, спрыяюць нараджэнню новых ідэй. Адной з такіх ідэй стала задумка Алеся Карлюкевіча стварыць выданне, прысвечанае кнізе, і запрасіць да ўдзелу ў праекце Нацыянальную кніжную палату Беларусі.

Думаю, усе пагодзяцца, што прапанова была, ды і застаецца, своечасовай і карыснай. На жаль, так склалася, што ў нашай краіне асобнага выдання — часопіса або газеты, — прысвечанага кнізе і кніжнай культуры Беларусі, няма. Дзесьці на мяжы мінулага і цяперашняга стагоддзяў выходзілі такія газеты, як "Кнігарня", "Кніга і мы", "Книжный мир", але па тых ці іншых прычынах яны спынілі сваё існаванне. І сёння, нягледзячы на тое, што ў краіне штогод выпускаецца каля 1500 газет і часопісаў, праект "ЛіМа" "Кніжны свет" — адзіная крыніца, што запаўняе гэты прабел.

Нацыянальная кніжная палата Беларусі рыхтуе для "Кніжнага свету" матэрыялы рубрыкі "Навінкі кнігавыдання". Ёсць у Кніжнай палаты бібліяграфічная серыя з прыгожай назвай "Летапіс друку Беларусі", заснаваная яшчэ ў 1924 годзе. Першапачаткова яе матэрыялы публікаваліся на старонках беларускага часопіса "Асвета", а цяпер акрамя "Летапісу друку Беларусі" публікуюцца на старонках "ЛіМа", і мы вельмі задаволены гэтым супрацоўніцтвам. За год працы яно набыло новыя абрысы, напрыклад, па архіўных асобніках выдавецкай прадукцыі, якія захоўвае Кніжная палата, рыхтуецца аглядная інфармацыя пра найбольш цікавыя кнігі. На будучыню мы азначылі шэраг, магу спадзявацца, цікавых публікацый і пра архіў друку Кніжнай палаты, і пра тую ж серыю "Летапіс друку Беларусі", і некаторыя іншыя.

У свята нараджэння "Кніжнага свету" хачу пажадаць усім нам здароўя, натхнення і новых творчых ідэй. Пра ідэі: калі праект "Кніжны свет" распачаў сваю дзейнасць, хтосьці з чытачоў пажадаў, каб з цягам часу ён стаў "газетай у газеце". Але, можа, сёння гэтага недастаткова? Спадзяёмся, што калі-небудзь "Кніжны свет" зробіць крок наперад, да новага асобнага выдання, магчыма, часопіса, прысвечанага кнізе Беларусі, яе гісторыі і сучаснасці. А гісторыя гэта вельмі багатая, звязаная з мноствам асоб і падзей, вядомых не толькі ў нашай краіне, але і на абшарах Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі.

У сучаснай Беларусі штогод выпускаецца больш як 11 тысяч кніг айчынных і замежных аўтараў самай рознай тэматыкі і чытацкага прызначэння, зарэгістравана больш як 800 выдаўцоў. Гэта значыць, ёсць пра што пісаць, ёсць што абмяркоўваць і даследаваць, як кажуць журналісты, інфармацыйных нагод для такога выдання больш, чым дастаткова. Таму яго нараджэнне было б сапраўдным падарункам не толькі творчай інтэлігенцыі, але і ўсім беларусам.

## *Прэзентацыя*

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Канстанцін Заслонаў — вядомы і невядомы



Пра легендарную асобу — кіраўніка падпольнай арганізацыі, што дзейнічала ў гады Вялікай Айчыннай вайны на станцыі Орша, камандзіра партызанскай брыгады Канстанціна Заслонава старэйшае пакаленне ведае шмат. А вось калі запытацца ў маладога пакалення пра чалавека, чыё імя залатымі літарамі ўнесена ў гісторыю Перамогі?

Так, яго імя стала назвай фільма Аляксандра Файнцымера і Уладзіміра Корш-Сабліна пра барацьбу беларускага падполля супраць захопнікаў, помнік Канстанціну Заслонаву ўстаноўлены на чыгуначным вакзале г. Оршы, у гэтым горадзе ёсць і музей. У Мінску — бюст героя, у Санкт-Пецярбургу і Кіеве — мемарыяльныя дошкі.

Хіба гэтага хопіць для ўшанавання памяці чалавека, узнагароджанага двума ордэнамі Леніна і медалямі, якому пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза за ўзорнае выкананне баявых заданняў камандавання на фронце барацьбы з нямецкімі захопнікамі і праяўленыя пры гэтым адвагу і геройства (Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 7 сакавіка 1943 г.)? Кніга Ізы Заслонавай "Аповесць пра бацьку" ўбачыла свет у выдавецтве Аляксея Вараксіна напярэдадні значнай для нас даты — Дня вызвалення Беларусі. Насычаная багатым дакументальным матэрыялам, успамінамі блізкіх, яна расказжа пра вытокі станаўлення легендарнай асобы, дзіцячыя і юнацкія гады.

Аляксей Вараксін адзначае: "Выхаванне падрастаючага пакалення, будучых воінаў павінна ісці на яркіх прыкладах. І асоба Канстанціна Заслонава таго вартая. Партызан, падпольшчык, разведчык. У гэтым вобразе хапае і рамантыкі.

Калі ў выдавецтва звярнулася дачка Канстанціна Сяргеевіча, мы ахвотна адгукнуліся на прапанову выдаць кнігу. Невялікі тыраж — 300 экзэмпляраў.

Кніга трапіла ў агульную рассылку па бібліятэках, 100 экзэмпляраў даслалі ў музей Заслонава, частка распаўсюджваецца ўжо "Белкнігай". Тым, хто сёння адказвае за ідэалагічнае ўмацаванне грамадства, не лішне было б вярнуць з нябыту многія імёны. І ў першую чаргу не адыёзных асоб, а герояў нядаўняга савецкага часу. Можа, і Саюз пісьменнікаў Беларусі мог бы далучыцца і стварыць серыю кшталту "Бібліятэчка воіна". Лепшыя творы можна было б экранізаваць. Прыйшоў час гаварыць пра патрыятычнае выхаванне моладзі, мужнасць, выкананне грамадзянскага абавязку — і гэта не проста прыгожыя словы".

## *У падтрымку чытання*

# Ад фантастыкі да класікі

Вольга НОРЫНА,
фота Кастуся Дробава



***Дырэктар выдавецтва «Вышэйшая школа» Аляксандр Нячай:***

— У дзяцінстве захапляўся навуковай фантастыкай — у мяне дасюль вялікая бібліятэка. Пасля школы цікава было вярнуцца да аповесцей Міхаіла Лермантава, яго пошукі паўплывалі на маё станаўленне.

У апошні час з вялікім задавальненнем звяртаюся да класікі — асабліва замежнай. Ахвотна чытаю і перачытваю творы Германа Гесэ. Захапляюся творчасцю Юрыя Бондарава — падабаюцца яго невялікія апавяданні. Іх можна раскрыць на любой старонцы і чытаць, колькі маеш часу. Проза Бондарава лаканічная па сродках, пасля прачытання можна доўга думаць над тым, які глыбінны змест аўтар данёс да чытача сваімі кароткімі фразамі.

# Вобразы, падказаныя сэрцам

**Новую канцэртную праграму "Памяць сэрца" Беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль "Харошкі" паказаў у Вялікай зале сталічнай філармоніі, куды былі запрошаныя ветэраны мінулай вайны і дзеці ваеннага пакалення, героі ратных падзей і сведкі жорсткіх старонак тагачаснай гісторыі, а таксама ўдзельнікі VI Беларускага медыяфоруму. Прэм'ера адбылася 22 чэрвеня. І невыпадкова. Яе паказам наш заслужаны калектыў пад кіраўніцтвам Валянціны Гаявой адгукнуўся на журботную дату — 70-годдзе з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны.**



**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Кастуся Дробава**

Сонейка наша, "Харошкі"... Няўжо мажліва да светлай, жыццярадаснай палітры ансамбля дадаць, без урону для мастацкага выніку, колеры ды інтанацыі гора, журбы і жалобы? І ці гэтага чакае публіка ад свайго куміра?.. Скептыкі знаходзяць нагоду для сумневу заўсёды. Аднак Валянціна Гаявая — незалежная, дзёрзкая і летуценная — у сваіх намерах заўсёды шчыры і мудры мастак з выдатнай прафесійнай інтуіцыяй, густам, пачуццём меры. Яна кінула чарговы творчы выклік — і ўу яе зноў усё атрымалася! Атрымалася адмысловае, эстэтычна перакануўчае спалучэнне традыцыйнай фальклорнай асновы, каларыту этнаграфічных матываў — і не ўласцівага жанравай прыродзе "Харошак" вобраза вайны.

Вобраз гэты ўводзіцца ў драматургічную канву відовішча праз разгорнутую баладу "Жуpaвы" на музыку Марыны Марозавай (вядомую з прэм'ер мінулага сезона) ды нізку вакальных нумароў: "Запалі, маці, свячу" і "Што ж з вайны не ідзеш" (кампазітар Марына Марозава, салісткі, адпаведна, Наталля Брацлоўская ды Юлія Гібкоўская), "Ішлі салдацікі дамоў" (узор народнай песні "Із далёкіх із краёў", запісаны Генадзем Цітовічам, апрацаваны Уладзімірам Гінько, у выкананні вакальнай групы) і сапраўдны савецкі "хіт" першых пасляваенных дзесяцігоддзяў "Вот кто-то с горочки спустился" (апрацоўка Уладзіміра Турчынскага для жаночага трыа ў сакавітым акапэльным выкананні Наталлі Брацлоўскай, Юліі Гібкоўскай ды Вольгі Неўмяржыцкай). Прытым тэма ўсенароднага гістарычнага выпрабавання і вялікага гора, што так або інакш пакінула свой след у генетычнай памяці кожнай беларускай сям'і, літаральна ўрываецца ў мірны кантэкст сцэнічнага аповеда — пасля напоўненых маладой энергіяй, пазітыўнай экспрэсіяй і мяккім гумарам, лірыка-рамантычных "Мядуначкі" (вакальна-харэаграфічная кампазіцыя на музыку У.Гінько) ды "Жытнёвага раманса" (кранальная мініяцюра на музыку М. Марозавай).

Тонкі майстар, знаўца душы танца і законаў яго сцэнічнага існавання, Валянціна Гаявая сродкамі свайго ўнікальнага тэатра стварае пранізлівую метафару...

...Гарачыя дні чэрвеня. Сенакос. Рупная, напружаная праца, прыгожая, нібы ўрачысты сялянскі рытуал. Самыя кароткія і самыя светлыя вечары. Ясная, святая і святочная, купальская ночка. Рамантычныя сустрэчы ва ўлонні пяшчотнай беларускай прыроды. Спатканні першыя і — апошнія... Сонца нядзельнай летняй раніцы схавалася за чорным крылом бяды: вайна! Загрукаталі па рэйках вайсковыя эшалоны; выйшлі да чыгункі кабеты, маладзіцы, дзяўчаты, пакрыўшы галовы чорнымі хусткамі, нібы ўглядаюцца ў няспынную чараду вагонаў: ці не мільгане ў гэтым злавесным кругабегу знаёмы, родны, жывы твар... Беларускія мадонны, гэтак падобныя да выяў на хрэстаматыйных палотнах Міхаіла Савіцкага, яны мужна перажываюць час чорных апранах, расстраляных мараў, пахаваных надзей. У іх наструнёных постацях з пакорліва схіленымі галовамі, з прыціснутымі да бакоў і выпрастанымі, нібы здранцвелымі, рукамі — роспач і смутак. У іх зацятых рытмічных, спраўных рухах, у адкрытых позірках, скіраваных на неба, дзе прастуе жураўліны клін, — прага працаваць на сваёй зямлі, упартае чаканне новага жыцця і вера ў шчасце. У музычнай партытуры нараджаецца мажорная мелодыя; са светлавой партытуры знікаюць змрочныя фарбы; і неўпрыкмет "святлее" жалобнае аблічча жаночай талакі: немавела якім чынам знікаюць чорныя хусціны, касцюмы "ажываюць" ад бялюткіх дэталяў...

> *Над праграмай "Памяць сэрца" працавалі музычныя кіраўнікі Марына Марозава ды Уладзімір Гінько, мастакі па касцюмах Аляксей Гаявы ды Юрый Піскун. Пастаноўку танцаў ажыццявіла мастацкі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага заслужанага харэаграфічнага ансамбля "Харошкі", народная артыстка Рэспублікі Беларусь Валянціна Гаявая.*



Эпіцэнтрам радаснага мірнага дня робіцца мястэчковае "Вяселле" — харэаграфічная карцінка, складзеная з некалькіх абразкоў-кампазіцый. Атмасфера гэтай, самай светлай і аптымістычнай часткі праграмы, поўніцца сустрэчамі сяброў, жартоўнымі сваркамі суседак-пляткарак, трапяткімі спатканнямі закаханых, шчыраваннем дбайных сватоў, сярод якіх, між іншым, на першых ролях — заўсёды пазнавальны харошкаўскі персанаж, увасоблены Фёдарам Балабайкам. Чалавек-танец, ён працяты музыкай і рытмам нават калі ўсяго толькі шпацыруе паўз авансцэну з вяртлявым бубнам у руках або проста гамоніць з гарманістамі ці выпрабоўвае з нейкай дзіцячай радасцю гучанне драўлянай трашчоткі. А калі яшчэ выкіне пару каленцаў у кадрылі ці выйдзе на круг у "Барыні" пад зухаваты перагуд цымбальнага дуэта Ульяны Гаўрылавай ды Валянціны Марчынскай!..

Урэшце, пасля лубочнага вясельнага застолля, памятнага фота ўсёй радні разам з маладымі, агульных скокаў і віртуознай "Святочнай сюіты", якая ўлучае ў сябе найскладаныя тэхнічна, гранічна эмацыянальныя, вострахарактарныя, эфектныя танцы "на злом галавы", выкананыя артыстамі ансамбля з поўнай самааддачай, бліскуча, — ціхая кульмінацыя вечара. Да публікі звярнуліся народная артыстка Беларусі Валянціна Гаявая, якая адносіць сябе да дзяцей вайны, і ветэран Вялікай Айчыннай, паэт-франтавік Аляксандр Суслаў. У рыфмах вершаў ды ў звычайных шчырых словах прагучала думка пра тое, наколькі гэта важна для жывых — берагчы памяць сэрца, у якой жыве наша гісторыя, незваротныя людскія страты, боль продкаў, іх любоў да роднай зямлі і вера ў шчасце будучых пакаленняў...

***На здымках: харэаграфічная балада "Журавы"; вясёлы дуэт.***

## ART-пацеркі

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Дню вызвалення горада-героя Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў прысвячаецца дабрачынны канцэрт-акцыя расійскіх музыкантаў, якая мае адбыцца заўтра, 2 ліпеня, у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Прагучыць сімфанічная паэма піцерскага кампазітара Леаніда Левашкевіча "Дарога любові". Гэты твор уяўляе сабою сюіту з 19 невялікіх п'ес працягласцю ад 2 да 5 хвілін — своеасаблівых музычных замалёвак старасвецкіх прыгарадных паркаў Санкт-Пецярбурга, прасякнутых пачуццямі гармоніі, радасці, замілавання. Выканаўцы — Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі ды расійскія госці: салісты Аляксандр Шусцін (скрыпка), Андрэй Бараненка (фартэпіяна), Аляксандр Сацэнка (акардэон) і дырыжор Аляксандр Чарнабаеў.

Мінскае дзяржаўнае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава сёлета скончылі 46 маладых спецыялістаў у сферы жывапісу, дызайну, скульптуры і мастацкай апрацоўкі дрэва. Паводле нядаўняй прыгожай традыцыі дыпломы ім уручаліся ва ўрачыстай і знакавай абстаноўцы — у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у асяроддзі знакамітых творцаў, карыфеяў айчыннай школы і выяўленчага мастацтва. Гэты выпуск адметны — юбілейны: 60 гадоў таму першыя выпускнікі пакінулі сцены навучальнай установы, вядомай цяпер як "глебаўка". Прадстаўнікі яе 60-га выпуску пачуваюць сябе ў пэўным сэнсе спадкаемцамі студэнцкіх традыцый некалькіх пакаленняў выхаванцаў вучэльні, сярод якіх вылучылася сапраўднае сузор'е імёнаў: Ізраіль Басаў, Віктар Грамыка, Май Данцыг, Арлен Кашкурэвіч, Міхаіл Савіцкі, Васіль Шаранговіч, Леанід Шчамялёў.

Стагоддзе з дня нараджэння Аляксандра Шыдлоўскага адзначылі ў Гродне. У памяць пра славутага беларускага песенніка адкрылі мемарыяльную дошку, наладзілі канцэрт, у якім гучалі яго творы. А іх гэты самародак, кампазітар і паэт, напісаў больш як дзве сотні. Некаторыя ўвайшлі ў зборнік "Колькі ў небе зор", выдадзены да юбілейнай даты.

Італію, гістарычную скарбніцу шэдэўраў сусветнай культуры, адкрытую рускімі жывапісцамі амаль тры стагоддзі таму, могуць наноў адкрыць для сябе наведвальнікі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Да 4 верасня тут будзе працаваць выстаўка "Італія, айчына натхнення...", якая прадстаўляе рускі жывапіс са збору Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. У экспазіцыю ўвайшлі палотны Івана Айвазоўскага, Пімена Арлова, Фёдара Броннікава, Мікалая Ге, Сакрата Вараб'ёва, Арэста Цімашэўскага, іншых знаных майстроў. У атмасферу выстаўкі арганічна ўпісваецца цыкл тэматычных вечароў-канцэртаў, дзе прагучыць музыка В. Беліні, А. Вівальдзі, М. Глінкі, Дж. Расіні, А. Шнітке... Да іх правядзення спрычынілася піяністка Таццяна Старчанка, аўтар праекта Белдзяржфілармоніі "Музычная гасцёўня". Бліжэйшы такі вечар абвешчаны на 13 ліпеня.

**Ёсць імёны вядомыя і ёсць імёны, пра якія грэх не распавесці. Кожны раз, калі ў сваім архіве натрапіш на почырк знаёмага, блізкага чалавека, адарвешся ад спраў і міжволі задумаешся. Тым больш калі прыгадаеш свайго земляка. Шмат гадоў даводзілася мне сябраваць з Міхаілам Васільевічам Гарбачовым, які нарадзіўся на Сенненшчыне. Два дзесяцігоддзі працаваў ён у Праўленні Саюза пісьменнікаў СССР на Паварскай вуліцы ў Маскве. Кабінет ягоны знаходзіўся ў правым крыле вядомага гістарычнага будынка сядзібы васямнаццатага стагоддзя. На дзвярах службовага кабінета была шыльда: “Намеснік сакратара Праўлення па літаратурах народаў СССР”.**

# Асколак ля сэрца

Генадзь ПАЦЫЕНКА

Міхаіл Васільевіч лічыўся чалавекам выключнай ветласці, дабрыні, прыветнасці і ніколі не ўдзельнічаў ні ў якіх справах “цемры”. У 1971 г. ён атрымаў званне заслужанага дзеяча культуры БССР. І было за што. У развагах пра лёсы літаратуры Раіса Баравікова аднойчы згадала ягонае імя і заўважыла, што сёння ў Маскве замены для Гарбачова няма. Гэтая сціплая дэталь стала яшчэ адным штуршком да разважанняў і ўспамінаў. Шмат твораў беларускіх аўтараў было перакладзена Гарбачовым на рускую мову. Ды яшчэ якіх! Раманы І. Мележа “Людзі на балоце”, “Подых навальніцы”, І. Навуменкі “Вецер у соснах” і “Сорак трэці”, І. Чыгрынава “Плач перапёлкі”, аповесці В. Быкава “Альпійская балада”, “Трэцяя ракета”, “Мёртвым не баліць”. Да таго ж — творы І. Шамякіна, В. Адамчыка, П. Галавача, А. Кулакоўскага і іншых!

Гарбачоў быў франтавіком, баявым афіцэрам, належаў да асяроддзя, у якім не было эгаізму і меркантыльнасці. Ён заставаўся патрыётам Беларусі і выдатным прапагандыстам яе літаратуры. Шмат хто перакладаў беларускую прозу на рускую мову, але мала хто рабіў гэтую немагчыма складаную справу так таленавіта, як ён. Выдатнае веданне роднай мовы, глыбінь душы беларусаў, гісторыі народа адчувалася ў кожнай ягонай рабоце.

Беларускую літаратуру ў саюзныя часы на дзіва добра ведалі ў краіне, чыталі і паважалі — гэтаму, безумоўна, спрыяла і дзейнасць Міхаіла Васільевіча. Тады паўнавартаснае мастацкае слова было выяўленнем здароўя душы грамадства, яе аховай. Слову адводзілася выхаваўчая роля. Стварэнне дабра было сутнасцю пісьменніцкага прызначэння.

Сімпатыі Міхаіла Васільевіча былі пераважна на баку творчага чалавека, які жыве ў нястачы. У тагачасных сталічных умовах ён дапамог выпатрабаваць жыллё кансультанту па туркменскай літаратуры Атаджану Таганаву, а дзіцячаму пісьменніку Генадзю Шманю з Віцебска — кватэру і працу ў Туле. Студэнты Літаратурнага інстытута імя М. Горкага неаднойчы атрымлівалі грашовую дапамогу Літфонду СССР, пуцёўкі ў санаторыі і розныя дамы творчасці, творы пісьменнікаў з усіх рэспублік уключаліся ў тэматычныя планы сталічных выдавецтваў — і ва ўсім гэтым прысутнічала цеплыня душы.

Міхаіл Васільевіч сардэчна сябраваў з сівым грывастым рускім паэтам Васілём Фёдаравым. Калі трэба было адвесці душу, падзяліцца набалелым, Гарбачоў запрашаў паэта за столік рэстарана “Будапешт” замест звыклага Цэнтральнага дома літаратараў (ЦДЛ). У Вялікую Айчынную Фёдараў не падлягаў прызыву на фронт, працаваў спецыялістам на адным з авіяцыйных заводаў Сібіры. Да канца сваіх дзён ён шанаваў франтавікоў, ставіўся да Міхаіла Васільевіча з асаблівай добразычлівасцю. Шмат якія вершы і паэмы Васіля Фёдарава Міхаіл Гарбачоў паўтараў на памяць:

*Всё испытав,*
*Мы знаем сами,*
*Что в дни психических атак*
*Сердца, не занятые нами,*
*Не мешкая займёт наш враг.*
*Займёт, сводя всё те же счёты,*
*Займёт, засядет, нас разя…*

Доўга пасля я не мог уцяміць: што знаходзілі яны ў нічым не адметным рэстаране, дзе, як і паўсюль, грукатала, ускладняла размову каменяпадная эстрадная музыка?

За два-тры месяцы да свята Перамогі Міхаіл Васільевіч пачынаў звязвацца са сваімі баявымі сябрамі. Напярэдадні свята яны прыязджалі ў Маскву — з Башкірыі, Украіны, Грузіі, Малдовы, Расіі — і год за годам спыняліся ў гасцініцы “Будапешт”, якую загадзя замаўляў для іх маскоўска-беларускі сябар. Хтосьці з аднапалчан быў з палачкай, хтосьці — з пратэзам, хтосьці — з пустым рукавом. І разам, і асобна яны захоўвалі ветэранскую годнасць, якую падкрэслівалі сівізна і бранзавата-алавяны адліў узнагарод. Гэтыя людзі ведалі сабе цану, яны бачылі смерць і пераадолелі яе. У адным з нумароў састаўлялі сталы, тумбачкі, там пад пераможную чарку спявалі песні ваенных часоў.

Міхаіл Васільевіч выглядаў адзіным з аднапалчан, у якога не было калецтваў, і міжволі думалася, што яму пашанцавала больш за іншых… Але гэта было не так. Гэта было да такой ступені няправільна, што сумленне дагэтуль не дарує колішняй маладой наіўнасці. Ягоная рана была ўнутраная, схаваная, рана сур’ёзная, пра якую ён мужна не распавядаў. Рана самая балючая.

Франтавая роднасць не парушалася аніякімі падзеямі да самых васьмідзясятых гадоў.

З пачаткам васьмідзясятых атмасфера ў Маскве пакрысе пачала змяняцца. На яе вуліцах раптам з’явіліся “зазывалы-напёрсчнічкі”, якія прапагандавалі, прызвычайвалі да “новага” ладу жыцця. Дзіўным здавалася, што хтосьці забараніў міліцыі іх чапаць, і прапагандысты шулерствавалі, абжульвалі мінакоў. А са старой “цэкашнай” пляцоўкі ў рэдакцыі газет, часопісаў, у выдавецтвы валам павалілі функцыянеры-сядзельцы, пераважна аляксандра-якаўлеўскага разліўнога пашыбу. І ў культурным, творчым жыцці сталіцы з’явіўся пах дыхлафосу. Злучаліся пустэча слова і надрыўная музычна-наркатычная эстрада. Ёй добра плацілі, і яна раўла, дрыгалася, вывальвалася на падмосткі сцэн і клубаў: “Тот знал, что делал, посылая гуманистический туман”, абдурняючы маладыя галовы.

Выявілася зусім ужо загадкавае: у першую чаргу пачалі прыватызоўваць літаратуру, хаця з даўніх часоў вядома: народ жывы, калі жывое слова. Няма літаратуры — народ вымірае, бо мастацкае слова — гэта носьбіт духу, касмічнай энергіі, таямніца чалавечай душы, закліканая служыць яе выратаванню. Літаратура свядома выбівалася са звыкла-натуральнага жыццёвага ладу. Тагачасныя пустэча і цемра, якія ўзніклі ў Маскве, выклікалі дух разбэшчанасці і “цывілізаванага” бандытызму па ўсёй краіне. Шмат што ў культуры скацілася да прымітывізму. Абяцанні магчымых і немагчымых выгод, апантанасць ілжывымі абяцанкамі і ідэямі мела вынікам маральнае аслабленне грамадства, яго духоўную дэградацыю. Мала хто разумеў тады сутнасць таго, што адбываецца, куды, адкуль і навошта дзьме вецер. Жыццё дае кожнаму літаратару матэрыял жорсткага сутыкнення са светам, вызначае нялёгкую душэўную працу пісьменніка. Сёння шмат каго з нас раздражняюць словы “дэмакратыя”, “правы чалавека”, “свабода слова”, якія сталі замовай, сэнс якіх зацёрся, быў вычарпаны. За кожнае слова чалавек нясе адказнасць перад Богам, як вучыць Евангелле, і не трэба прыдумваць хітрыя выразы.

Згадваю сваю апошнюю сустрэчу з Міхаілам Гарбачовым. Ад мітусні, якая ўсё расла, хацелася з’ехаць далёка-далёка. Я набыў пуцёўку і паехаў зімой 1981 г. у дом творчасці ў Ялту.

> *“Шмат твораў беларускіх аўтараў было перакладзена Гарбачовым на рускую мову. Ды яшчэ якіх! Раманы І. Мележа “Людзі на балоце”, “Подых навальніцы”, І. Навуменкі “Вецер у соснах” і “Сорак трэці”, І. Чыгрынава “Плач перапёлкі”, аповесці В. Быкава “Альпійская балада”, “Трэцяя ракета”, “Мёртвым не баліць”.*

З таго часу мінулі дзесяцігоддзі жыцця! І неяк няёмка, што дагэтуль не знайшоў часу падзяліцца ўспамінамі пра свайго земляка. Справядліва дакараў мяне за гэта і Міхаіл Кузміч, кандыдат філасофскіх навук, літаратурны крытык, публіцыст. І перажытае ўзгадалася.

Аднойчы ў сонечны дзень дзяжурная папярэдзіла, што нейкі чалавек, які прыехаў з Масквы, цікавіўся мною і хутка будзе. І вось у дзверы пагрукалі, і я ўбачыў Міхаіла Васільевіча. Як высветлілася, ён наведваў магілу Максіма Багдановіча на старых Ялцінскіх могілках. Ён неаднойчы рабіў спробы ўпарадкаваць магілу паэта, але Саюзу пісьменнікаў на той час было не да гэтага. Кідаліся ў вочы рэзка пасівелыя валасы Міхаіла Васільевіча, адчуванне падказвала, што прыезд нечым абумоўлены. Я не стаў пытацца адразу, бо бачыў ягоны заклапочаны стан. Было вырашана адзначыць сустрэчу. Хацелася ўтульнасці, душэўнай размовы. Пад вечар над гарой Ай-Петры з’явіліся аблокі, якія то захілалі, то агалялі вяршыню. Падзьмуў сыры прыморскі вецер.

Звыкла ўсмешлівы, прыветны, гэтым разам Міхаіл Васільевіч быў маўклівы і нібыта прыслухоўваўся да чагосьці ў сабе, як гэта здараецца перад бядой ці пачаткам праблем… Дома, па словах сябра, дзякаваць Богу, усё было добра, але цень трывогі і смутку быў вельмі прыкметны.

Амаль перад пенсіяй Міхаіла Гарбачова вымусілі пакінуць працу. “Вярхі” прапанавалі чарговага сакратара праўлення па нацыянальных літаратурах, які меркаваў, што погляды на літаратурны працэс не супадуць у яго з поглядамі ягонага намесніка, які нібыта залішне захапляецца перакладамі беларускіх аўтараў. Гэта быў літаратурны наменклатуршчык з шэрагу тых, хто “ніколі не памыляецца”, носьбіт “высокіх” ісцін, на справе ж — балбатун і прыстасаванец, які пры першых складанасцях адмовіцца ад сваіх перакананняў. Дзіўным чынам ён прыстасоўваўся да кожнай сітуацыі, заўсёды мітусіўся ў літаратурна-творчым коле. Сапраўднай падставай было тое, што Міхаіл Васільевіч лічыўся чалавекам значна больш высокіх поглядаў і прынцыпаў, чым яго новы кіраўнік. У далейшым цёмныя часы быў непатрэбны чалавек з франтавой патрыятычнай закваскай.

Я не ведаў, што адказаць, як падтрымаць старэйшага сябра, не разумеў добра, што адбываецца, бо ў сучаснасці шмат што насцярожвала, выклікала збянтэжанасць.

У пэўны момант Міхаіл Васільевіч ціха прыклаў руку да грудзей. Ён доўга не адымаў яе, збялеў і, паволі супакойваючыся, неахвотна патлумачыў свой стан. Я не паверыў адразу…

У баях за вызваленне Венгрыі ў 1945 г. Міхаіл атрымаў асколачнае раненне ў грудзі. Асколак затрымаўся ля сэрца, сціснуўся і дужа не турбаваў. З-за рызыкі ўрачы не браліся яго вымаць. Але апошні рэнтген паказаў, што асколак зрушыўся і стаў небяспечным. Ён нібы чакаў свайго часу. І гэты час надышоў.

У сакавіку 1981 года, праз месяц пасля нашай сустрэчы, Міхаіла Гарбачова не стала. “Міна” ля сэрца спрацавала. Ён імкнуўся не распавядаць пра свой фаталістычны стан франтавога камандзіра, не паказваць слабасць, якую ён не выяўляў і перад носьбітамі варожасці і бязладдзя ў краіне, за якую змагаўся. З асколкам ля сэрца Міхаіл Васільевіч паспеў зрабіць такі даволі шмат. Пасля пахавання я зразумеў, чаму аднапалчане заўсёды збіраліся ў гасцініцы “Будапешт”. Гэтая назва абуджала ў франтавікоў памяць пра кроў, пралітую на венгерскай зямлі.

У гасцініцы больш не збіраліся баявыя сябры, не спявалі песні ваенных гадоў і ўлюбёны раманс Міхаіла Гарбачова “Выхожу адзін я на дарогу…”. Толькі ён і быў здольны арганізаваць сустрэчу. Мяркую, што Міхаіл Васільевіч разумеў несумяшчальнасць, немагчымасць стасункаў з духамі цемры і зла таго часу. Яго розум і талент, як шмат хто падкрэсліваў, любілі шырыню і прастору, у якіх ён вырас на сваёй малой радзіме, на Віцебшчыне. Чыстыя і шчырыя, па сцвярджаннях мудрацоў, — заўсёды ствараюць. Ніжэйшыя — разбураюць створанае імі. І гэта недзіўна — у Антона Чэхава ёсць выказванне: “Па тым, як б’ецца сэрца, я магу вызначыць, ці належыць чалавек свету мастацкасці…”

Аднойчы я гартаў пісьменніцкі даведнік і не знайшоў у ім прозвішча таго перабудовачнага сакратара-ўпраўленца, які, як высветлілася, у хуткім часе з’ехаў за мяжу.

Да сваіх кароткіх успамінаў пра земляка хочацца дадаць: у кожнай праведнай, светлай душы ёсць свой асколак. І патрэбны толькі адзін штуршок, каб асколак крыху ссунуўся, стаў пагражаць жыццю. Бо толькі пустое сэрца можа біцца спакойна і роўна — на адзінокім жыццёвым шляху. Сэрца Міхаіла Васільевіча было іншым.

Пахаваны ён у падмаскоўным пасёлку Таміліна.



Фота БДАМЛіМ

***На здымку: перакладчыкі Яўген Мазалькоў і Міхаіл Гарбачоў (крайні справа) са студэнткамі Літаратурнага інстытута імя М. Горкага. Канец 60-х гадоў.***

Літаратура і мастацтва № 26 1 ліпеня 2011 г.



Мікола ГІЛЬ

# Дзякуй вам, Аляксандр Трыфанавіч!



Фота з інтэрнэт-сайта www.keytown.com

У 1978 годзе ў “Советском писателе” выйшаў зборнік “Успаміны пра А. Т. Твардоўскага”. У ім ёсць успаміны былога намесніка рэдактара “Красноармейской правды” Мікалая Баканава “Па Мінскай, на захад”, дзе я нечакана прачытаў такое:*“Ноч з 5 на 6 ліпеня (***1944 года — М. Г.***) правялі ў беларускім гарадку Лагойску. Патрапілі мы туды, адшукваючы чарговую стаянку для аператыўнай групы рэдакцыі. Гарадок пацярпеў параўнальна мала. Згарэла толькі некалькі дамоў ды была ўзарвана плаціна невялікай сажалкі.*

*Ужо сцямнела, калі наша машына спынілася ля будынка, занятага партызанскім шпіталем. На шырокім ганку вялікага драўлянага дома сядзела маладзенькая дзяўчына ў скуранцы, з самазараднай вінтоўкай Токарава ў руках. Мы павіталіся, прыселі побач, нейкі час памаўчалі, прыслухоўваючыся да ціхага журчання рачулкі, што працякала побач. Дзяўчына-партызанка распавяла, што завуць яе Косцем, — гэта, вядома, не сапраўднае імя, а партызанская мянушка. Да партызан яе закінулі на самалёце пасля сканчэння курсаў падрыўнікоў, ваяваць пайшла добраахвотна.*

*Доўга і падрабязна распавядала нам “Косця”, як яна рапідамі падрывала нямецкія эшалоны, як яе двойчы паранілі і якія цудоўныя людзі беларускія партызаны. Я больш маўчаў, слухаў пытанні Твардоўскага і адказы дзяўчыны, на рахунку якой было шэсць нямецкіх эшалонаў, спушчаных пад адхон.*

*Аляксандр Трыфанавіч напісаў аповед “Косця”. Ён цалкам заснаваны на рэальным матэрыяле.*

*У Лагойску ў нас пабывалі пісьменнікі Ілья Эрэнбург і Пётр Паўленка…”*

Тады, прачытаўшы гэта, я быў моцна ўзрушаны. Падумаць толькі: сам Твардоўскі быў у нашым Лагойску! А ў дадатак — і Эрэнбург, і Паўленка. Твардоўскі нават начаваў у Лагойску! Чаму ж я не ведаў пра гэта?

У мяне даўным-даўно стаіць на паліцы пяцітомнік Аляксандра Трыфанавіча Твардоўскага. Колькі разоў здымаў тыя томікі, браў у рукі, чытаў. Але — пераважна першыя тры, з вершамі і паэмамі. А чацвёрты і пяты з артыкуламі, нарысамі, дзённікавымі запісамі заставаліся па-за ўвагай — хоць ты не прызнавайся нікому і ніколі. І не даходзіла да мяне, дурня, што калі паэт геніяльны, дык ён і чалавек, так бы мовіць, геніяльны, і таму ўсё, што напісана ім, ягонаю рукою, хоць бы і ў прозе, — таксама геніяльнае. Разумеў і ведаў, канечне, тут я трошкі ўтрырую, проста вось так ужо неяк атрымалася, што не дайшлі да тых двух томікаў рукі.

Карацей кажучы, прачытаў я ўрэшце і два апошнія томікі паэта, у тым ліку, вядома, “старонкі запісной кніжкі” пад назваю “Радзіма і чужына”. Чытаў — і зноў, як ад вершаў і паэм, было не адарвацца. Літаральна ўсё захапляла надзвычайнай уважлівасцю і цікаўнасцю аўтара да жыцця і людзей, выключнай маляўнічасцю і падрабязнасцю ўражанняў і апісанняў.

Само сабою, прачытаў найперш “Косцю”. Цікавае апавяданне, хоць і просценькае па сюжэце. З нічога, як кажуць, зробленае. У аснове сапраўды, як піша Баканаў, “рэальны матэрыял” — расповед дзяўчыны-партызанкі пра сябе, пра свой лёс. Ды зноў жа, можна толькі здзіўляцца, што кароткая і выпадковая сустрэча з параненай ахоўніцай партызанскага шпіталя ў Лагойску дала штуршок і, зноў жа, той самы “матэрыял” для напісання цэлага, прытым немалога, апавядання.

Што сустрэча з гераіняй твора адбылася ў Лагойску — пра гэта ў апавяданні не гаворыцца. Замест Лагойска фігуруе “маляўнічы заходнебеларускі гарадок”: *“Пад вечар доўгага і спякотнага ліпеньскага дня, які асабліва задоўжыўся для мяне з-за вялікіх пераездаў па незнаёмых мясцінах, я шукаў сваю франтавую гаспадарку на ўскраіне маляўнічага заходнебеларускага гарадка. Ніводнай нашай машыны тут не аказалася: ці яны яшчэ не прыбылі, ці ўжо зняліся і рушылі за фронтам, а я з імі раз’ехаўся.*

*Воінскіх частак паблізу не заўважалася, нават рух на шашы рабіўся слабейшым, — усё падбіралася, падцягвалася да перадавой. Карацей кажучы, мне не было куды дзявацца. Так я набрыў на дзяўчыну, што сядзела на прыступках ганка ў двары вялікага драўлянага, не то школьнага, не то бальнічнага дома, звернутага забітымі крыж-накрыжараднымі дзвярыма да дарогі”.*

*“Апошнія два месяцы — тэрмін, можа, самы ўмяшчальны для мяне за ўсю вайну па навізне ўражанняў ад нашага поспеху, хоць па пары года больш за ўсё падобны на той пачатковы перыяд вайны, які пазначаны зусім іншай памяццю.*

Было крышачку крыўдна, што Лагойск не названы, а найбольш з-за таго, што ён чамусьці ператварыўся ў “заходнебеларускі”. А потым падумалася: пэўна, гэта невыпадкова. Твардоўскі ведаў гісторыю Беларусі, бываў тут не раз яшчэ да вайны; ведаў, што колішняя мяжа з Польшчай праходзіла зусім блізка ад Мінска, ля Негарэлага. А да Лагойска ад Мінска — нават трошкі далей, і ляжыць ён не толькі на поўнач ад сталіцы, але й крыху на захад. Супакойвала і тое, што гэта ўсё ж мастацкая проза, а не дакумент, і для выяўлення галоўнае думкі твора зусім не мае значэння, ці ёсць у ім назва гарадка, ці няма…

Ну, а калі б не прачытаў успамінаў М. Баканава “Па Мінскай, на захад”? Можа, так і не дайшлі б рукі да двух апошніх томікаў паэта на маёй кніжнай паліцы, і так бы й не ведаў я, што ў першыя дні вызвалення ад фашысцкіх акупантаў у нашым Лагойску начаваў Твардоўскі. Больш за тое, тады, пасля прачытання ўспамінаў, мне нават падумалася, што паэт мог праязджаць і праз нашу Слабаду. Я ж добра памятаю 2 ліпеня 44-га, калі праз дзедаву вёску Айнаравічы імкліва ішлі і ехалі на Захад нашы! Яны ішлі калонамі з боку Слабады, ці Мураванкі, што, лічы, адно і тое ж. Тады ўсе дарогі, якія вялі на Захад, былі заняты наступаючымі нашымі войскамі, а не толькі галоўныя, шашэйныя. Таму і прыдалася наша прасёлкавая дарога са Слабады на Айнаравічы праз Красную горку, ці з Мураванкі на Айнаравічы, у абход тае ж Краснае горкі.

А пра Лагойск Твардоўскі ўсё ж згадаў у сваёй ”запісной кніжцы” — у нарысе “Ластаўка”:

*“Апошнія два месяцы — тэрмін, можа, самы ўмяшчальны для мяне за ўсю вайну па навізне ўражанняў ад нашага поспеху, хоць па пары года больш за ўсё падобны на той пачатковы перыяд вайны, які пазначаны зусім іншай памяццю.*

*З вёсачкі Панскае, куды мы знячэўку выскачылі пасля доўгага сядзення ў раёне Смаленска, пачалося і доўжыцца жыццё на колах. Пасля Панскага — Лагойск, гарэлы, з наймаляўнічымі ваколіцамі, рэчкай і круглым возерам. Пасля Лагойска — гэтая вёсачка, адкуль паедзем на світанні разам са штабнымі людзьмі. Наступны пункт ужо будзе на захад ад Вільнюса”.*

І гэтая згадка чамусьці развеяла мае спадзяванні на тое, што Твардоўскі даганяў фронт праз маю Слабаду. Пэўна, выбіраў ён больш торныя шляхі-дарогі. Паехаў ён з Лагойска ці на Плешчаніцы, перад імі (ці за імі) звярнуўшы на Даўгінава, ці, хутчэй за ўсё, праз Гайну, што паблізу Слабады, на Янушкавічы, Ілью і далей на Смаргонь ці Ашмяны. Акурат гэта самая, бадай, прамая і кароткая дарога з Лагойска на Вільню.

У нарысе “Ластаўка” звяртае на сябе вось такая заўвага паэта:

*“Пры такім руху ўсё, што застаецца ззаду, неяк хутка старэе для душы, так бы мовіць, тылавее. Але неабходна хоць што-небудзь запісваць, па магчымасці навёрстваючы ўпушчанае. Важна, па-першае, зберагчы непаўторную свежасць першага ўражання, а па-другое, не абмяжоўвацца адным толькі прафесійным афармленнем новых уражанняў”.*

Вось адкуль, аказваецца, тая змястоўнасць і свежасць назіранняў і ўражанняў, якія кранаюць у апавяданні “Косця”! Ён быў не толькі карэспандэнтам — ён заставаўся найперш пісьменнікам і турбаваўся аб тым, каб зберагчы “непаўторную свежасць першага ўражання”. Твардоўскаму гэта ўдавалася выключна!

Ёсць у “запісной кніжцы” і нарыс “Першы дзень у Мінску” — мусіць, найярчэйшае сведчанне відавочцы пра тое, што сабою ўяўляў Мінск і мінчукі ў першыя гадзіны пасля вызвалення. Паслухайце:

*“І вось ён, Мінск, канечная кропка вялікай магістралі, што носіць яго імя. Вось ён, Мінск, у барвовым восыпе рухнуўшых ад агню будынкаў, у пыле дарог, што імкліва запрудзілі сваім патокам ягоныя вуліцы, у цяжкіх дымах і густым мройве ліпеньскай спёкі. <…> Не зразумець, дзе разбурэнні новыя, дзе старыя, трохгадовай даўнасці. Горад зноў знявечаны і скалечаны немцамі.*

*“І вось ён, Мінск, канечная кропка вялікай магістралі, што носіць яго імя. Вось ён, Мінск, у барвовым восыпе рухнуўшых ад агню будынкаў, у пыле дарог, што імкліва запрудзілі сваім патокам ягоныя вуліцы, у цяжкіх дымах і густым мройве ліпеньскай спёкі. Мінск да таго, як першы рэгуліроўшчык займе ў ім пост на скрыжаванні…*

*Не зразумець, дзе разбурэнні новыя, дзе старыя, трохгадовай даўнасці. Горад зноў знявечаны і скалечаны немцамі. Як быццам рану, што не загаілася за доўгі тэрмін, зноў развярэдзілі, лінула свежая кроў, свежыя шнары ляглі ля ранейшых, што паспелі, магчыма, калі не зацягнуцца, дык хоць бы абсохнуць па краях. І праз гэта балюча, як ад сапраўднай раны… Нас абганяюць гарматы, завешаныя не столькі завялымі галінкамі маскіроўкі, колькі кветкамі, вянкамі, букетамі кветак, што паспелі ўжо мінчукі паднесці сваім вызваліцелям. Насельніцтва, колькі яго ёсць у горадзе, усё ад малога да старога на нагах. Твары такія, як быццам кожны чалавек сустракае свайго самага блізкага — мужа, сына, жаніха, бацьку — пасля доўгай і ўжо амаль безнадзейнай разлукі…”*

Дзякуй вам, Аляксандр Трыфанавіч! Гэта сапраўды “томов премногих тяжелей”!

Аднак пільнае вока паэта заўважала не толькі гэта. У невялікім (газетным, вядома) нарысе “Пра алкаголь” (пра дзённік забітага нямецкага обер-лейтэнанта, у якім ёсць меркаванне, што рускія салдаты спяваюць таму, што захапілі нямецкі “трафейны” алкаголь), — такая прыпіска:

*“Яшчэ наконт алкаголю. У Мінск мы ўваліліся ў першыя ранішнія гадзіны 3 ліпеня. І многае з таго, што можна было прымеціць і запомніць, адразу ж і выкласці ў артыкуле тым жа днём, — я прыкмеціў, запомніў і выклаў…*

*Але я не мог адзначыць у артыкуле адну акалічнасць, якая пры ўсёй сваёй знешняй непрыстойнасці не магла не спрыяць агульнаму пад’ёму святочнасці. У будынку тэатра быў размешчаны немцамі гарэлачны склад. Насельніцтва разбірала гэты склад дружна, весела, і галоўнае, разбірала з бліжэйшаю мэтаю частавання і забеспячэння ў далейшы баявы шлях байцоў. Сярод мужчын прыкметны былі такія, што і самі пры гэтым частаваліся, але жанчыны не пілі — валаклі, валаклі бутэлькі да магістралі, па якой каціліся танкі і машыны, тыцкалі на хаду, кідалі за барты машын.*

*— Сыночкі, родныя нашы! Выпіце, выпіце, родныя нашы!*

*І я магу ручацца, што ўсё гэта было невыказна хараша, правільна, урачыста і прыгожа”.*

І зноў — дзякуй вам вялікі, Аляксандр Трыфанавіч!..

***Не пазначыў, калі гэта ў мяне напісалася. Пэўна, недзе неўзабаве пасля выхаду кнігі ўспамінаў пра Твардоўскага — у канцы 70-х. Цяпер, калі перадрукоўваў запісы, не паленаваўся, разгарнуў чацвёрты том Збору твораў паэта, зноў з цікавасцю і асалодаю перачытаў многія нарысы і апавяданні, у тым ліку, вядома ж, і “Косцю”, і “Ластаўку”, і “Першы дзень у Мінску”. Міжволі звярнуў увагу на тое, што на гэтых творах засталіся прыкметныя пазнакі заломвання ражкоў старонак. Пэўна ж, мая віна: перапісваючы, карыстаўся не закладкамі, а такім вось варварскім чынам — заломваў ражкі патрэбных лісткоў…***

***На здымку: Аляксандр Твардоўскі (у цэнтры) і смаленскія пісьменнікі, 1945 г.***

**Венецыянская біенале — найстарэйшы і самы аўтарытэтны мастацкі форум, які праводзіцца з 1895 года. Сёлета, на 54-й Міжнароднай выстаўцы сучаснага мастацтва ў Венецыі (la Biennale di Venezia), Беларусь упершыню самастойна прадставіла свой нацыянальны павільён. Ажыццявілі дадзены праект Міністэрства культуры нашай краіны, "Прыёрбанк" (спонсарская дапамога), група спецыялістаў, мастакоў, скульптараў пад кіраўніцтвам куратара павільёна, рэктара Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіла Баразны пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў і Пасольства Беларусі ў Італіі. Арганізацыйна-тэхнічнымі пытаннямі, падрыхтоўкай мастацкага праекта займаўся Музей сучаснага выяўленчага мастацтва на чале з яго дырэктарам, камісарам Нацыянальнага павільёна Беларусі Наталляй Шаранговіч. Як усё адбывалася, хто браў удзел і што прэзентавала наша краіна на Венецыянскай біенале — чытачам "ЛіМа" і распавядзе Наталля Васільеўна.**



# Асветленая канцэптуальнасць

Музей сучаснага выяўленчага мастацтва быў па сутнасці галоўным арганізатарам, таму што функцыі арганізацыйнага плана ўсклалі менавіта на нас. Было нялёгка, бо Беларусь на дзяржаўным узроўні ніколі яшчэ не ўдзельнічала ў такіх буйных мастацкіх выстаўках. І гэта нягледзячы на тое, што ў нас вельмі цікавыя мастакі, моцная мастацкая школа, і не толькі класічная, а і школа наватарская, авангардная, канцэптуальнага мастацтва. Адна справа паказваць гэта ўсё ў межах нашай краіны, нават у межах СНД, іншая — выйсці на міжнародны ўзровень. Па-першае, гэта не танна, каштуе вялікіх грошай. Па-другое, трэба прыкласці вялікія высілкі, намаганні для арганізацыйнай работы. Па-трэцяе, знайсці тое мерапрыемства, дзе мы змаглі б сябе паказаць.

Міністр культуры Павел Латушка быў ініцыятарам удзелу ў Венецыянскай біенале. Чаму менавіта гэта біенале? У свеце шмат розных выставак, маштабных мастацкіх форумаў: біенале ў Маскве, Стамбуле, выстаўка сучаснага мастацтва "Дакумента" ў Каселі… Тым не менш мы спыніліся на Венецыянскай біенале — адзінай выстаўцы ў свеце, дзе прадстаўлены нацыянальныя павільёны. Гэта значыць, што кожная краіна мае магчымасць выказаць уласнае меркаванне пра мастацтва, культуру, ёсць свае куратары, якія фарміруюць спіс мастакоў, канцэпцыю выстаўкі, нягледзячы на тое, што абіраецца і агульны куратар, які вызначае штораз тэму біенале.

Гэта самы буйны, маштабны форум, дзе прадстаўлена найбольшая колькасць дзяржаў. Напрыклад, сёлета ўдзельнічала 89 краін; былі і новыя экспаненты: Андора, Саудаўская Аравія, Бангладэш і Гаіці. Мы сябе новымі не называем, бо ў 2005 годзе адзін з італьянскіх артменеджараў зацікавіўся беларускім мастацтвам, знайшоў спонсараў і прапанаваў адкрыць павільён. Але выбар мастакоў і канцэпцыі таксама быў за ім. Сёлета ж мы мелі сваіх камісара, куратара, уласна беларускае фінансаванне, прапанавалі тую канцэпцыю, якую лічылі неабходнай, мастакоў таксама выбіралі самі і самі прайшлі ўвесь шлях. Гэта магчыма, нягледзячы на тое, што ў першы раз рабілі і было вельмі складана: не ведалі многіх арганізацыйных момантаў, але здолелі. Гэта значыць, што мы адкрылі дарогу ўсім, хто будзе ісці за намі, адкрылі вялікі мастацкі сусвет для нашых творцаў.

Важна, што выбар творцаў падтрымала Міністэрства культуры, на дзяржаўным узроўні было сцверджана, што мы не "баімся" выстаўляць мастакоў авангарднага напрамку. Яшчэ гадоў дзесяць таму ў Еўропе было сталае меркаванне, што ў Беларусі, як і ў многіх постсавецкіх краінах, валадарыць мастацтва класічнае, акадэмічнае, вельмі правільнае. А тут раптам аказалася, што мы можам сабе дазволіць не развесіць карціны ў залачоных рамах, як прызвычаіліся, а прапанаваць зусім іншы падыход да выяўленчага мастацтва, паказаць, што ў нас стала развіваюцца розныя яго віды. У нас ёсць цікавыя мастакі, якія займаюцца відэаартам — арганічным кірункам сучаснага мастацтва, перформансам, робяць інсталяцыі з нечаканых матэрыялаў. Невыпадкова адным з удзельнікаў выстаўкі быў абраны Артур Клінаў. Ён шмат год займаецца артаб'ектамі з саломы. Той твор, які ён рабіў для Венецыянскай біенале, таксама быў зроблены з саломы.

Агульнай канцэпцыяй сёлетняй біенале абрана тэма "ILLUMInations". У перакладзе ідзе гульня слоў паміж "нацыя", "нацыянальная", "асвятлі нацыю", "пакажы нацыю", "прапануй нацыю". Ёсць шмат розных перакладаў гэтага слова, але як мы разам з куратарам, рэктарам БДАМ Міхаілам Баразной вызначылі, тэма павінна гучаць так: "Пакажы, асвятлі нацыю, прапануй штосьці нацыянальнае, узнімі пытанне нацыянальнай самаідэнтыфікацыі". Дарэчы, галоўнага куратара біенале Бічэ Курыгер — знакамітую швейцарскую мастацтвазнаўцу — доўга крытыкавалі за шырыню гэтай тэмы, што няма агульнай вызначанай плыні. Мне падаецца, што для Беларусі гэта было вельмі вызначальна. Мы маглі сабе дазволіць паказаць менавіта тое, што характарызуе асаблівасці менталітэту народа, прапушчанага праз уяўленне сучасных беларускіх мастакоў. Таму праект, які прапаноўваўся ў нашым павільёне, называўся "Kodex". Кодэкс, калі мы згадаем гісторыю беларускай культуры, — гэта частка кнігі без вокладкі: сшытыя лісты і былі па сутнасці кодэксам. Ілюмінаваць — быў у свой час тэрмін "ілюмінаванне" кнігі — ілюстраваць, аздабляць, упрыгожваць. Калі перакласці на сучасную мову — "візуалізацыя тэкстаў", якая для нас характэрная, таму што іх напісанне — вельмі важная частка сучаснай культуры. Візуалізацыя — перавод у нейкія вобразы, таксама важны складнік сучаснага выяўленчага мастацтва. Таму мастакі — у павільёне іх было прадстаўлена пяць — візуалізавалі тэксты рознымі пластычнымі сродкамі, пачынаючы ад больш традыцыйнага віду — графікі. Гэта работы маладога творцы Юрыя Алісевіча. Ён займаецца рукатворнай, недрукаванай графікай, якая пішацца на аркушах. Юрый намаляваў тонкімі лініямі вялікую колькасць прадметаў, якія ўяўлялі сабой тэму майстэрні беларускага мастака, паўсядзённасць: стол, алоўкі, ручкі, пэндзлі... Кожны з прадметаў быў падпісаны на некалькіх мовах, што давала магчымасць гледачу, з аднаго боку, бачыць ілюстрацыю, а з другога — прачытваць яе. Здаецца, што гэтыя невялікага памеру работы павінны былі прайсці па-за ўвагай гледача. Але ж не, калі прыходзіла міжнароднае журы, мы назіралі за іх рэакцыяй на нашы творы. Першае, што спыніла іх увагу, — не вялізная інсталяцыя Артура Клінава, не 4-метровая скульптура Канстанціна Касцючэнкі, а маленькія графічныя лісты Юрыя Алісевіча. Журы ўзіралася, вельмі ўважліва разглядала, так бы мовіць, акенца ў беларускае жыццё.



Усе астатнія мастакі таксама візуалізавалі тэкст, але іншымі пластычнымі сродкамі. Артур Клінаў абраў тэму "Тайнай вячэры", якая звяртае да хрысціянства і якая натуральная для нашай гісторыі мастацтва, увогуле для нашага менталітэту. Ён нечакана патрапіў у агульную плынь. Артур абапіраўся на класічны твор Леанарда да Вінчы "Тайная вячэра", які знаходзіцца ў Мілане, што непадалёк ад Венецыі. За некалькі тыдняў да біенале даведаліся, што куратар Бічэ Курыгер у аснову свайго аўтарскага праекта таксама паклала знакаміты твор класічнага мастака позняга Адраджэння Цінтарэта "Тайная вячэра". Перагукванне гісторыі на біенале было моцна падтрымана самім галоўным куратарам. Для яе натуральна, калі сучаснае мастацтва бярэ нейкія тэмы і перайначвае новай пластычнай мовай. Так што мы не толькі патрапілі ў кантэкст, а і ў галоўную тэму з "Тайнай вячэрай" з саломы Клінава.

З аднаго боку, салома — традыцыйны беларускі матэрыял, з другога, — яна была пададзена не як звычайныя выкшталцоныя маленькія плецены рэчы, а брутальна: Артур яе звязваў, склейваў, фарбаваў, і ў выніку атрымаўся магутны твор у пяць з паловай метраў даўжынёй, дзе кожная фігура апостала мае вышыню чалавечага росту. Ідэя палягала ў тым, каб з дапамогай гэтага матэрыялу выклікаць у гледача пытанне. Па-першае, салома, пафарбаваная залатой фарбай, глядзіцца ды гучыць па сутнасці як залатое шыццё, роспісы, па-другое, — гэта недаўгавечны матэрыял. Клінаў як бы пытаецца: усё ж такі хрысціянства — нешта манументальнае, як яно сёння існуе, ці гэта тая частка нашага жыцця, якая не адыгрывае важнай ролі і як бы знікае ў сучасным жыцці.

Філасофскую тэму хрысціянства таксама падымае Канстанцін Касцючэнка. Ён прапанаваў сваю скульптуру "Распяцце": з абрубка ствала дрэва як бы вырастаюць вялізныя прадзіраўленыя рукі і абдымаюць увесь свет. Скульптура замацавана на празрыстым пастаменце, і калі глядзіш на яе здалёк — адчуванне, што рукі нібы лунаюць у паветры. На ствале напісаны словы з Бібліі, іх можна прачытаць, толькі калі падыходзіш вельмі блізка. Яшчэ адзін з удзельнікаў павільёна — малады мастак і рэжысёр Дзяніс Скварцоў прадставіў відэаарт: відэафільм, дзе ў крыху гратэскна-іранічным плане праз спалучаныя разам сродкі кінематаграфіі, анімацыі падаецца погляд на наша ваенізаванае мінулае.

Віктар Пятроў у Беларусі больш як дзесяць гадоў праводзіць фестывалі перформансаў. Ён паказаў на адкрыцці філасофска-канцэптуальны перформанс: спалучэнне тэатральнага, музычнага, відовішчнага, мастацкага дзеяння. Акрамя гэтага, у павільёне прадстаўлены яго манументальныя жывапісныя творы. Дарэчы, адзін з іх — "Апакаліпсіс. Папярэджанне" — быў напісаны яшчэ ў 1990-х гадах і выстаўляўся ў некалі знакамітай галерэі "Шостая лінія", якая адыгрывала значную ролю ў станаўленні сучаснага беларускага мастацтва. Гэты твор і цяпер глядзіцца сучасна.

Мы патрапілі ў агульны кантэкст біенале яшчэ і тым, што не проста прапанавалі развешваць ці расстаўляць работы па павільёне, а зрабілі архітэктурны праект, аўтар якога — Міхаіл Шыкаў. Ён прапанаваў вялізныя канструкцыі, якія б скіроўвалі наведвальніка павільёна па пэўным маршруце: ад графікі да відэаарту, пасля — да жывапісу. І гэтым чынам тэма кодэксу, візуалізацыі тэкстаў паўстае ў канцы вельмі ясна.

Тэму асвятлення нацыі многія постсавецкія краіны зразумелі як зварот да нядаўняга мінулага. Нават Польшча, якая шмат гадоў уваходзіць у склад Еўрасаюза, звярнулася да тэмы чырвоных гальштукаў, паліцэйскіх, забастовак. А мы сапраўды асвятлілі нашу нацыю, наша філасофскае мысленне, нашу гісторыю праз сучаснае пластычнае выяўленне мастакоў. Апынуліся ў нармальным агульным еўрапейскім кантэксце, здолелі пераадолець настальгію па савецкіх часах і, мяркую, прэзентавалі сябе годна.

Дадзеная экспазіцыя будзе дэманстравацца ў Венецыі некалькі месяцаў, а потым вернецца ў Беларусь. Безумоўна, мы выставім гэты праект на радзіме. Магчыма, будуць нейкія крытычныя заўвагі, але галоўнае, што ён здзейснены. Адным словам, першы блін не атрымаўся камяком.

Запісаў
**Віктар КАВАЛЁЎ**

***На здымках: мастак-перформер Віктар Пятроў; Артур Клінаў "Тайная вячэра".***







# Творчы працяг каласіяны

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

**У наступным, 2012, годзе наша краіна будзе адзначаць 130-годдзе народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. З гэтай нагоды Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа як вядучы культурны цэнтр, у якім зберагаецца гісторыя жыцця і творчасці народнага песняра, плануе вялікую колькасць новых цікавых праектаў. Добрым пачаткам юбілейнай серыі мерапрыемстваў і новым віткам у мастацкай каласіяне стала акцыя "На прастор!".**

Ініцыятары гэтага творчага праекта — кандыдаты мастацтвазнаўства Людміла Налівайка, Яўген Шунейка і мастак Віктар Данільчык — прадставілі ў выставачным пакоі Дома-музея народнага паэта свае новыя творы (графіка, батык, роспіс па шкле), прысвечаныя асобе Якуба Коласа, яго блізкім і родным, маляўнічым беларускім краявідам, вобразам ліра-эпічнай паэмы Якуба Коласа "Сымон-музыка".

На вечарыну ў музей завіталі, як зазначыла яго дырэктар Зінаіда Камароўская, і не з пустымі рукамі, а з падарункамі, сталыя сябры: дырэктар фірмы "Сатмен" Георгій Захарык, мастак, аўтар экспазіцыі музея Эдуард Агуновіч, пісьменнік Уладзімір Мацвеенка, доктар мастацтвазнаўства, прафесар Рыгор Шаура, мастак Мікола Мішчанка. Прыкладам, Эдуард Агуновіч прэзентаваў музею арыгінальны лінарыт да тытула кнігі Якуба Коласа "Новая зямля" 1967 года выдання, якую ён аздабляў.

А цяпер колькі слоў пра аўтараў супольнай экспазіцыі. Яўген Шунейка — дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, кандыдат мастацтвазнаўства, член Беларускага саюза мастакоў, арганізатар і ўдзельнік разнастайных мастацкіх праектаў у Беларусі і за яе межамі, аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі і праблемах сучаснага беларускага мастацтва. Як мастак Яўген Шунейка праяўляе сябе ў тэкстыльнай творчасці, займаецца станковым жывапісам і малюнкам, засвойвае нетрадыцыйнае мастацтва інсталяцыі і інш. Людміла Налівайка таксама кандыдат мастацтвазнаўства і член БСМ. Людміла Дзмітрыеўна з'яўляецца вядучым навуковым супрацоўнікам аддзела сучаснага беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея, выступае адным з вядучых даследчыкаў беларускай графікі першай паловы XX стагоддзя, працуе ў тэхніцы батыка і роспісу па тканіне і шкле, развівае і мадэрнізуе традыцыі віцебскіх і мінскіх мастакоў-наватараў 1920-х гадоў. Віктар Данільчык — выпускнік кафедры станковага жывапісу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, выкладчык. Год таму ён абараніў дыпломную работу: стварыў серыю графічных партрэтаў беларускіх пісьменнікаў.

На жаль, Людміла Налівайка і Віктар Данільчык былі занятыя, так што з выстаўкай гасцей знаёміў Яўген Шунейка. Ён адзначыў, што перад гэтай экспазіцыяй ладзіліся выстаўкі Паплаўскіх, Э. Агуновіча, а яны проста падхапілі эстафету, зрабілі кантрасныя работы, звязаныя з жыццём Коласа і яго творчасцю. Прыспеў час зрабіць чарговы рашучы крок у развіцці гэтага плённага напрамку нацыянальнага мастацтва, па-новаму звярнуцца да вядомых і яшчэ не асэнсаваных вобразаў, якія дазваляюць кожнаму мастаку адчуць вялікае натхненне і акрыленасць, выйсці на самы неабмежаваны творчы прастор. Яўгена Феліксавіча хвалявала, што беларускія мастакі, так бы мовіць, "пасадзілі" Коласа ў турму: малявалі яго за кратамі, арышт, суд над ім. Яўген Кулік увогуле намаляваў, як маці прынесла паесці Якубу Коласу ў турму. Ніхто не здагадаўся напісаць Коласа, калі таго выпусцілі на волю, што і зрабіў Я. Шунейка.

На выстаўцы была прадстаўлена і адна незавершаная работа Яўгена Шунейкі з адмысловым подпісам: "Каб плыў наш Нёман срэбраводны, дадай і ты свой штрых свабодны".

Творца прапанаваў кожнаму жадаючаму дадаць па штрыху пастэллю ў карціну і такім чынам стварыць новы арыгінальны калектыўны экспанат каласіяны. Таксама Яўген Феліксавіч абвясціў, што работы, якія дэманструюцца ў экспазіцыі, экспаненты вырашылі перадаць у дар музею. Асобны комплекс выстаўкі быў прадстаўлены рэдкімі кнігамі з фондаў установы — прыжыццёвымі выданнямі твораў Якуба Коласа. Гэта самыя першыя асобнікі паэм "Новая зямля" (1923), "Сымон-музыка" (1925), "Рыбакова хата" (1947), "Суд у лесе" (1943), а таксама "Другое чытанне для дзяцей беларусаў" (1909), паэтычныя зборнікі "Песні жальбы" (1910), "Водгулле" (1922), "Голас зямлі" (1943), Зборы твораў Якуба Коласа ў двух (1928 — 1929) і сямі (1952 — 1954) тамах і інш.

Вечарыну аздобілі выступленні цымбальнага ансамбля "Першацвет" СШ № 13 пад кіраўніцтвам Віктара Тульвінскага, выхаванцы якога бяруць удзел у шматлікіх мерапрыемствах музея, і салісткі заслужанага аматарскага хору "Крынічка", лаўрэата другога фестывалю юных талентаў горада Мінска "Сымонкавы нашчадкі" Аляксандры Няхай.

***На здымках: Яўген Шунейка "З ідэямі эпічнай паэзіі" (да 100-годдзя вызвалення Якуба Коласа з Мінскага астрога); Віктар Данільчык "Партрэт Міхася Міцкевіча"; Людміла Налівайка "Сымон-музыка ў палацы".***

# Сугучча еднасці



Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

Лінія і сілуэт, аб'ём і плоскасць, рэалістычнасць і ўмоўнасць — усё гэта задачы, якія ставяць перад сабой як малюнак, так і скульптура. Выкарыстоўваючы розны тэхнічны арсенал, гэтыя два віды мастацтва ўсё ж цесна ўзаемазвязаныя. Малюнак заўсёды выступаў як аснова выяўленчага мастацтва, як нейкі каркас, які служыў базай і для скульптара, і для жывапісца, і наогул для любога мастака.

У Палацы мастацтва экспанавалася выстаўка "Малюнак і скульптура". Яе фармат быў пашыраны: удзел бралі не толькі члены Беларускага саюза мастакоў, але і студэнты. Таксама не было абмежаванняў у абраных тэхніках і сродках выяўлення. Намеснік старшыні БСМ па выставачнай дзейнасці Сяржук Цімохаў адзначыў, што гэта другая падобная выстаўка, якая праводзіцца на дадзенай плошчы за апошнія чатыры гады. Арганізатары меркавалі, што наступная будзе мінімум праз дзесяць гадоў, бо сам жанр малюнка рукатворнага, а не друкаванага, сёння, так бы мовіць, не так яскрава сябе праяўляе, не настолькі актуальны ў жыцці мастака. У пэўнай ступені лічаць, што малюнак — другаснае, таму што з'яўляецца як бы пераходным перыядам ад думкі, ад задумы да жывапісу ці паўнавартаснага графічнага твора. Але ж малюнак звычайна паўстае першаасновай для жывапісу, друкаванай графікі, скульптуры, прыкладнога мастацтва і для мастацтва цалкам.

Таксама слова бралі старшыня секцыі скульптуры БСМ Сяргей Логвін, загадчык кафедры скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзімір Слабодчыкаў, прадстаўнік секцыі графікі Уладзімір Вішнеўскі, старшыня секцыі жывапісу Леанід Хобатаў, удзельнік выстаўкі Яўген Шатохін. Выступоўцы адзначалі, што малюнак — самастойны від мастацтва, а не эскіз пад жывапіс, скульптуру, манументальныя рэчы. Падкрэслівалася, што цяпер мастацкая грамадскасць не вельмі актыўна працуе над малюнкам. Работы больш вучэбныя, пастановачныя, мала цікавых твораў, незвычайных праектаў, наватарскіх пошукаў. Тое ж тычыцца і скульптуры, якая апошнім часам наводзіць на салоннасць, скіраванасць мастацтва на камерцыялізацыю: скульптуркі сталі прыгожанькімі, маленькімі, камернымі, каб выстаўляцца ў салонах для продажу.

Магчыма, і былі нейкія прабелы, але выстаўка адбылася. Яна патрэбная і ўдзельнікам, і гледачам. Малюнак адышоў ад акадэмічнага, набыў творчае значэнне. Што датычыць скульптуры, відавочны пошукі новай пластыкі, новых матэрыялаў і тэм.



Дадзеная экспазіцыя — пачатак далейшага шляху развіцця гэтых знітаваных відаў мастацтва, спроба зазірнуць у дзень наступны.

Выстаўка "Малюнак і скульптура" дэманстравала ў пэўным сэнсе сінтэз двух відаў мастацтва і ўключала як класічныя, так і сучасныя эксперыментальныя работы. З цягам часу і скульптура, і малюнак набылі новыя якасці і характарыстыкі. Межы відаў мастацтва паступова размыліся, і цяпер малюнак вырас і стаў цалкам самадастатковым сродкам творчага выяўлення, а скульптура, увабраўшы ў сябе новыя тэхналагічныя тэндэнцыі, стала адным з рухавікоў сучаснага актуальнага мастацтва.

***На здымках: Сяргей Аганаў "То-го"; Вольга Кісялёва "Жаночы партрэт".***

# Гафт — гэта жывапіс крыжыкам

**Анатоль МАЗГОЎ, фота аўтара**

**Цудоўны падарунак барысаўчанам і ўсім аматарам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва падрыхтавалі супрацоўнікі мастацкай галерэі "З'ява" цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Каладзеева. Тут ладзілася выстаўка гафту і работ з пацерак "Найчыстага харства найчысты ўзор!" У экспазіцыю ўвайшло 105 твораў 32 майстроў, у тым ліку і аднаго мужчыны, — удзельнікаў аматарскай студыі гафту "Чароўны крыжык" пры Палацы культуры горада Барысава.**



Асноўнымі тэмамі вышытых карцін сталі жаночая выява (выявы маці, цудоўнай незнаёмкі, партрэты знакамітых жанчын свету), а таксама разнастайныя кветкавыя сюжэты, якія выдатна дапоўнілі экспазіцыю. Уражваюць і дэкаратыўныя дрэвы з пацерак Алены Козік.

На прэзентацыі з прывітальным словам да ўдзельнікаў і гасцей звярнулася мастацтвазнаўца Тацццяна Кірылава. Яна павіншавала прысутных са святам, а таксама падзякавала майстрам за іх творчасць, якая дорыць самыя ўзнёслыя пачуцці. Па яе словах, прадстаўлены тут гафт — гэта жывапіс ніткамі, які зроблены віртуозна і адмыслова.

— Выстава "Найчыстага харства найчысты ўзор!" — вынікова за тры гады існавання нашай студыі. За гэты час студыйцы прынялі ўдзел у дванаццаці выстаўках. Мы ў добрых сяброўскіх стасунках з мінскім клубам "Вышывальшчыца" пад кіраўніцтвам Алены Бакаевай, якая рэгулярна запрашае нас на свае мерапрыемствы, — паведаміла прысутным кіраўнік студыі "Чароўны крыжык" Тацццяна Няжданава.

На вернісаж прыйшла вядомая барысаўская паэтка, член Саюза пісьменнікаў Беларусі і літаратурнага аб'яднання "Натхненне" Лёля Багдановіч. Натхнёная творчасцю майстроў, яна прачытала наступныя радкі:

*Дазвольце вас павіншаваць*
*З нагоды сённяшняй выставы.*
*Ад харства таго, відаць,*
*Вясёлкаю заззяла "З'ява".*
*Сустрэч цікавых пажадаць,*
*Сяброў надзейных*
*і цярпення.*
*"Чароўны крыжык" —*
*так трымаць!*
*Вітае шчыра вас "Натхненне"!*

Аматарскае аб'яднанне майстроў гафту ў горадзе на Бярэзіне было створана ў сакавіку 2009 года на базе мясцовага Палаца культуры імя Горкага. Нараджэнню студыі папярэднічала выстаўка дэкаратыўна-прыкладных работ працаўнікоў Барысаўскага завода медпрэпаратаў, якая праходзіла ў сакавіку 2008-га. Першая экспазіцыя студыйцаў была прадстаўлена праз год. У верасні 2009 года на агульным сходзе аматарская студыя гафту атрымала назву "Чароўны крыжык".

— Наша студыя створана для распаўсюджвання цікавай і карыснай інфармацыі пра гафт, абмену досведам паміж майстрамі, для зносін захопленых творчасцю людзей. На пасяджэннях студыі можна дазнацца шмат цікавага пра гафт і яго тэхніку. Майстры са стажам ахвотна дзеляцца сваім вопытам з пачаткоўцамі, раяць і падказваюць, якія схемы лепш выбіраць для сваёй першай работы, як разабраць ніткі ў наборы, адкуль лепш пачынаць гафт на канве. Калі вы жадаеце даведацца больш пра пяльцы, станкі і іншыя карысныя прылады для гафту, прыходзьце ў нашу студыю, вам тут спадабаецца, — запрасіла ахвотнікаў кіраўнік студыі Тацццяна Няжданава.

Акрамя таго, у мастацкай галерэі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці экспанаваліся дванаццаць работ шасці барысаўскіх майстроў у рамках выстаўкі "Шэдэўры жывапісу ў гафце". Пра цікавасць да гафту сведчыць той факт, што падобныя выстаўкі становяцца ўсё больш папулярнымі і выклікаюць рэзананс у культурным жыцці краіны.

***На здымку: Браніслава Галуза "Бэз".***

## З глыбінкі

# Галасы роднага краю

Буда-Кашалёўская цэнтральная раённая бібліятэка ўжо не адзін год працуе ў напрамку літаратурнага краязнаўства. Цяпер ідзе актыўная работа па стварэнні кутка "Галасы роднага краю". Ён прысвечаны ўсім пісьменнікам Будакашалёўшчыны, як ужо добра знаёмым, так і тым, якіх, магчыма, мы адкрыем. Для гэтага ёсць падстава і аснова — Будакашалёўшчына падарыла многа талентаў, у тым ліку і літаратурных.

Імёны Міколы Чарняўскага, Уладзіміра Дзюбы, Тацццяны Гарэлікавай, Анатоля Зэкава вядомы далёка за межамі раёна. Разам з гэтым ёсць таксама таленавітыя, але не так шырока вядомыя пісьменнікі — нашы землякі Аляксей Кейзараў, Мікола Літвінаў, самадзейныя паэты Барыс Адашкевіч, Міхаіл Новікаў, Алена Шульга, Міхаіл Міронаў.

Нягледзячы на тое, што зроблена ўжо шмат работы, супрацоўнікі бібліятэкі працягваюць пошукі інфармацыі пра пісьменнікаў-землякоў. Дзякуючы таму, што наладжаны сувязі з некаторымі творцамі або роднымі, блізкімі, знаёмымі, літаратурна-краязнаўчы куток папоўніўся каштоўнымі экспанатамі. Сярод іх — кнігі аўтараў, некаторыя іх асабістыя рэчы, ксеракопіі дакументаў, фотаздымкі з сямейных архіваў.

Цікавасць у наведвальнікаў выклікае раздзел "Падпісанае аўтарам", у якім прадстаўлены выданні з аўтографамі пісьменнікаў. Сярод іх — кнігі Алеся Бадака, Івана Бісева, Ніны Шкляровай, Міколы Мятліцкага, Міколы Шабовіча, Анатоля Зэкава, Аляксандра Афяроўскага і іншыя.

На базе літаратурна-краязнаўчага кутка "Галасы роднага краю" праводзяцца экскурсіі, падарожжы па творчасці пісьменнікаў, арганізоўваюцца сустрэчы з літаратарамі.

**Наталля КАРОТЧЫКАВА, Буда-Кашалёва.**

## Зваротная сувязь

**Уладзімір МЕХАЎ**

# Двойчы НЕлаўрэат

**Прачытаў у "ЛіМе" за 17 чэрвеня рэпартаж пра адкрыццё ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры выстаўкі вышыванак Святланы Дубялір. З дзівоснай прыгажосцю, што ствараецца рукамі Святланы (ведаю яе ці не з дзявочых гадоў, і для мяне яна і пры цяперашнім паважаным узросце Святлана), я трохі знаёмы — гэта не першая яе выстаўка. І парадаваўся цеплыні рэпартажу.**

Музей, зразумела, заахвоціўся на гэту выстаўку яшчэ і таму, што Святлана Дубялір — дачка вядомага, папулярнага не адно дзесяцігоддзе беларускага драматурга Аркадзя Маўзона. Са слоў пра гэта рэпартаж і пачынаецца. Што яна нарадзілася ў сям'і Аркадзя Маўзона, «які ў свой час стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР за фільм "Канстанцін Заслонаў"».

Ды тое і яно, што такога не было. Дзяржаўная прэмія СССР (тады яна называлася Сталінскай) была прысуджана ў 1948 годзе легендарнаму спектаклю купалаўскага тэатра "Канстанцін Заслонаў". Але аўтар п'есы Маўзон на нейкай інстанцыі са спіса вылучаных на атрыманне прэміі быў выкрэслены. Тое самае адбылося пры ўганараванні высокай прэміяй знятага паводле яго сцэнарыя фільма "Канстанцін Заслонаў".

З Аркадзем Іосіфавічам мы таварышавалі. І ведаю: абодва разы яму было балюча ад гэтага абмінання аўтара пры прэміраванні ягонага твора. Але прылюдна з таго жартаваў. Пра пісьменнікаў, артыстаў, вучоных, якія адзначаліся той вышэйшай тады ў краіне прэміяй неаднаразова, пры тытуляванні іх гаварылася: "двойчы лаўрэат Сталінскай прэміі". Ці "тройчы". Ці яшчэ больш. Канстанцін Сіманаў, напрыклад, атрымліваў Сталінскую прэмію, здаецца, пяць разоў. Дык дасціпны Маўзон адрэкамендоўваўся часам так:

— Аркадзь Маўзон. Двойчы НЕлаўрэат Сталінскай прэміі.

На памылковасць друкаванай інфармацыі пра званага калісьці драматурга наогул шанцуе. Так, у Віцебску нядаўна выдадзены на рускай мове даведнік "Па яўрэйскіх мясцінах Віцебска". І паколькі ў горадзе ёсць вуліца Маўзона, то кніжка дае даведку, што чалавек, імем якога вуліца названая, — «автор пьес, в том числе "Константин Заслонов" (совместно с К. Губаревичем), и киносценариев». Збліытаў аўтар тэксту даведніка А. Падліпскі стаўленую безлічу тэатраў п'есу Маўзона з п'есай пра Заслонава "Цэнтральны ход", напісанай Кастусём Губарэвічам разам з Іосіфам Дорскім для тэатра імя Якуба Коласа.

Бязлітасны бег гадоў да людской памяці!

# «Вясёлка» ў запаведніку

Звяры і птушкі, насякомыя і дрэвы нароўні з хлопчыкамі і дзяўчынкамі — пастаянныя героі дзіцячага часопіса "Вясёлка". Імі населены апавяданні, казкі, тэатральныя сцэнкі, песні і вершы, якія змяшчаюцца ў гэтым папулярным сярод юных чытачоў выданні.

Нядаўна супрацоўнікі рэдакцыі на чале з галоўным рэдактарам, пісьменнікам Уладзімірам Ліпскім самі наведаліся да сваіх лясных герояў. У Бярэзінскім біясферным запаведніку яны прысутнічалі на навуковай канферэнцыі па праблемах захавання біялагічнай разнастайнасці на запаведных тэрыторыях, якая была арганізавана па ініцыятыве акадэміка Віктара Парфёнава. Экскурсію па залах музея для гасцей з "Вясёлкі" правёў намеснік дырэктара запаведніка па навуковай і даследчай дзейнасці Валерый Іўковіч.

У адным з бліжэйшых нумароў часопіс распавядзе пра насельнікаў запаведніка і сваім юным чытачам.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

## Афарызм

*Галоўнае ўва ўсіх адно: любоў.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**





**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 3015
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 30.06.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ —
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12